Нарадзіўся 4 красавіка 1948 г. у вёсцы Вашкаўцы Ляхавіцкага раёна. Служыў у арміі. Закончыў Баранавіцкі тэхналагічны тэхнікум. Жыве ў Баранавічах. Працуе на ВБА. Сябар творчага згуртавання “Святліца”.



Героі кнігі – простыя людзі, якія не маюць вялікага багацця і ўлады. Яны знаходзяць радасць і шчасце ў іншым. А ў чым, вы даведаецеся, прачытаўшы гэтую кнігу. Невялікія па памеры творы прасякнуты беларускім народным гумарам, які – родны брат англійскаму і балгарскаму… Хочацца, каб вы прачыталі кнігу да апошняй старонкі, за што буду вам вельмі ўдзячны.

Аўтар

Вера, прага святла
Нас наперад вялі
У прасторы бясконцай
Бо мы Божыя дзеці
Мы дзеці Зямлі
А яшчэ – дзеці Сонца.

Ветры зялёныя,
Ветры духмяныя
Неслі на крылах Вясну…
У полі за вёскаю
Кветачкі сеялі
Тры васількі ў баразну.
Дожджыкі цёплыя,
Дожджыкі майскія
Весела скочылі з хмар.
І акварэльнымі
Яркімі фарбамі
Размалявалі абшар.
Сонейка чыстае,
Сонейка светлае
Плешчацца ў кроплях расы…
Срэбным грабеньчыкам
Стрэхі расчэсвае,
Золатам меціць насы.

**Каляды**

Вецер з белай поўначы
па лугах пракоціцца,
па лясах рассыплецца,
сціхне ля сцяны…
Беларусь святочная
ціха Богу моліцца,

просіць хлеба чорнага,
свету без вайны.
Вёска снегам белена,
слёз расою вымыта
чыстая-прачыстая
звонку і ўнутры…
Жырандоляй срэбнаю
расквітнелі зорачкі,
для душы адкрыліся
Небныя дары.
А гурты вясёлыя
Па дарозе радасці
Зорку Віфлеемскую
На руках нясуць…
Песні іх святочныя
Ў сэрцах адгукаюцца,
бо яны з анёламі
Божымі пяюць.

***

Няшмат я вершаў напісаў,
Паэтам не магу назвацца.
Дакладна рыфмы падбіраў,
Хацеў дзяўчыне спадабацца.
Кахання выпіта віно,
Шляхі навекі разышліся,
Забыта ўсё даўным-даўно,
Вось толькі вершы засталіся.
З шуфляды сшытак дастаю –
Скрозь парыжэлыя старонкі
Зноў бачу Верачку сваю:
Юнацтва водар, голас звонкі.

**Каханне**

Кахання магнетызм цячэ
Нябачным ручайком,
Бы Сонца грудзі апячэ
Павелічальным шклом.

А дзён вясёлы карагод
Па чыстай паласе
Фантан святла і гучных нот
за воблакі нясе.

Каханне – мара, сон жыцця –
Бальзамам для людзей.
Да нас прыходзіць з небыцця
І ў небыццё ідзе.

***

Пасля добрай п’янкі бацька ледзь ідзе.
Сядзе каля ганку, гутарку вядзе:

“Ужо пара жаніцца, мілы мой сынок!
Хопіць валачыцца ноччу да дзявок.

Ды глядзі, каб з роду добрага была,
“Прымы” не курыла, спірту не піла.

Каб пасаг харошы ды сабой прыгожа...
На вяселле грошы мы дадзім, паможам”.

Ох як любіць бацька п’яны гаварыць!
Сына нежанатага ўжо пара жаніць.

## Храм

І сніцца мне Храм залаты,
Лес, узгорак – як бохан хлеба...
Храм стаіць на прыгожай Зямлі,
А ўзносіцца ў чыстае неба.

На лясным узгорку светлы Храм стаіць.
Ноччу свецяць зоркі, днём святло гарыць.
    Сцены мармуровы, купал – неба госць,
    вокны каляровы, бляску прыгажосць.
Анёлы спяваюць у Храме залатым,
Птушкі прылятаюць ранкам веснавым.
    Глыбіні бясконцай срэбных струнаў звон.
    З узыходам сонца ажывае ён.
Шмат людзей шукае гэты светлы гмах,
Як сляпы блукае у сямі грахах.
    Ды блукаць не трэба, вера – твой бальзам,
    Бо святло ў небе, а ў сэрцы храм.

## Каханне і вясна

Цёплы, ціхі вечар на Зямлю ступае.
Заціхае горад, вёска ўжо спіць.
У зялёным садзе салавей спявае,
Клён аб нечым з вішняй лісцем шапаціць.
    Хто знайшоў каханне, той пачуе песню
    Ды пабачыць цуды маладой пары:
    Як вясна бяліла пад акном чарэшню,
    Як Амур крылаты лётаў да зары.
Любая дзяўчына пальчыкі сагрэла –
Мае грудзі млеюць ад пяшчоты рук.

На ўсходзе неба полымем гарэла,
Далятаў да зорак нашых сэрцаў стук.
Не брахаў сабака, не рыпелі дзверы...
Як яно прыходзіць? Можа, праз акно?
Малады не знае, а стары не верыць.
Шчасце ж – яно побач, шчасце – вось яно!

**Лета**

Лета ў лузе. Сонца грэе,
Песціць промнямі зямлю.
Цёплы ветрык шэпча-вее
Кветкам песеньку сваю.
Пасля моцнай навальніцы
Ў лужах, чыстых, як сляза,
Мыюць ногі маладзіцы
З гнуткім станам, як лаза.
Сцелюць белыя палотны,
Намачыўшы ў вадзе.
Спеў птушыны бесклапотны
У сунічны лес вядзе.
“Апалонікаў” пузатых
Ловяць майкай хлапчукі.
Маці кліча іх дахаты,
Ды не чуюць “рыбакі”.
Парай цёплаю, малочнай
Зранку дыхае зямля
І нясе цяпло ад ночы
да квітнеючага дня.
Ці было калі такое?
Можа, сон прысніўся мне
З Сонцам, Радасцю, Спакоем,
З гімнам лету і вясне.

## Бабіна лета

Ну, бабы! Прыйшло ваша лета,
Асеннія цёплыя дні,
І сёння ўсе мы, паэты,
Ляцім на крылатым кані.
    На белай, як снег, павуцінцы
    Плыве над зямлёй павучок,
    Над полем, над лесам, гасцінцам,
    Прылёгшы на правы бачок.
Застылі паветра крышталі.
З высокіх слаёў атмасферы
Гучыць светамузыка балю
Ваш ход, спадары кавалеры.

## Восень

Я заблудзіўся на паляне,
Каля разлапістых дубоў,
Дзе восень дрэмле на дыване
з дажджоў, туманаў і вятроў.
    Як рэшткі бабінага лета,
    Павіслі ніткі з павучком.
    Па камарынага балета –
    Туруе скрыпка пад смычком.
Малочна-белае паветра
Смакую вуснамі – як мёд.
Праз цішыню лясныя нетры
Чароўны водзяць карагод.
    Тут сумны дзень спаткаўся з ночкай,
    Замоўклі птушак галасы.
    Па жылах жоўтага лісточка
    Збягаюць кропелькі расы.

***

Шырокіх праспектаў, Арбата,
палацаў з Крамлёўскай сцяной
мілей мне вясковая хата
Ды Нёман з Каложскай царквой.
    З гарачых барханаў Сахары
    Плыве жоўта-белы пясок.
    А я на Палессі – дзе хмары,
    Дзе ў лесе звініць ручаёк.
Квітнеюць бульвары Парыжа,
Дзень новы вітаюць японцы.
Ды звоняць касцёлы Нясвіжа,
Купаецца ў Свіцязі сонца.
    Хоць зноў мяне кліча дарога,
    Любві да цябе не зракуся –
    Зямля, што ляжыць ля парога,
    Якую завем Беларуссю…
Беларусь – мая маленькая краіна ў сэрцы Еўропы.

**Залацінка**

Верш пішу высокім стылем,
сотні слоў перастаўляю,
сярод копаці і цвілі
Залаціначку шукаю.
    А знайду, дык адшліфую,
    Каб далёка загучала,
    Беларусь маю святую,
    Слова наша праслаўляла.
Можа, стане камертонам
Струн жывых у сэрцы вашым,
Зазвініць святочным звонам

у віне крыштальнай чашы.
    Падарожніку ў дарозе
    Сілы страчаны вяртае,
    Сустракае на парозе,
    Дзверы ў доме адчыняе.
Гэта мары, толькі мары:
Не дымець, не тлець вуголлем,
А маланкаю з-за хмары
Засвяціць над наваколлем.

**Рака жыцця**

З усіх вядомых рэк і рэчак,
З хвіліны першае быцця,
Як падарунак пры сустрэчы,
Як Божы дар – Рака жыцця.
  Хто вы? Адкуль? З якога веку?
  Калі надыдзе пэўны час?
  Ці ж чалавек у гэту рэку
  Заходзіць толькі адзін раз?
Хто лоцман? Мудрасць – паратунак.
Плацін не бачна, вольны шлях.
Нясе Зямлю на крылах думак
Надзейны, смелы, слаўны птах.
  Ідуць вякі, струменяць годы,
  І няўхільнай плынню дні бягуць.
  Дзяржавы знікнуць, а народы
  Свае грахі на суд нясуць.
А мы – малекулы патока,
Куды ідзём, што нам “дано”?
То ўздымаемся высока,
То апускаемся на дно.
  Жыццё ідзе, паўнее чаша,

Нясём яе на судны дзень.
А ў ёй відаць і шчодрасць наша,
І чарната – святло і цень.

**Перад люстэркам**

Няўжо гэта мы? Ды такія старыя?
Мінула даўно сорак пяць, пяцьдзесят...
У модзе ўжо песні і танцы другія.
Адцвіў наш карункавы сад.
Бацькоў забываем, іх мудрыя словы
Губляем дарогай, мяняем сяброў
І дзякуем Богу, што жывы-здаровы,
Што час той апошні яшчэ не прыйшоў.
У парку вясною ніхто не чакае
Апоўначы папараць-кветку шукаць.
Жар-птушку лавіць нам задышка мяшае,
І шчасця ў каханні ўжо не спаткаць...
Стары тэлевізар, сябрук і дарадца,
Шчэ вабіць, штодзённа скарочвае час.
Ну што тут рабіць? Чым карысным заняцца?
Пытанне мы знаем – не знаем адказ.
Раз ногі ідуць, трохі кроў яшчэ грэе –
Не трэба так часта ў люстэрка глядзець.
Старэем не мы – абалонка старэе,
А сэрцы паходняю будуць гарэць.
І нават калі пасталелае цела
Адпусціць душу ў далёкую плынь.
Даверымся лёсу, каб мудра і смела,
Узняцца да новых, нябачных вяршынь.

**Жаночы дзень**

Сваім позіркам маршчынкі ўсе твае разгладжу,
З пацалункаў і абдымкаў – карагод наладжу.

А світанне як спатканне – цела маладое
Для мяне тваё каханне – шчасце незямное.

Ой, даўно мяне Танюша так не мілавала.
Не Іваныч, а Ванюша зноў мяне назвала.

Мы знайшлі сваю нірвану, маладосць, багацце,
Ўсё цвіце, куды ні гляну, і святлее ў хаце.

Буду блазнам я, слугою, мая каралева,
І ўжо гэтаю вясною не пайду налева.

У цяпле і лёд растане. Ў дзверы звоняць госці,
а мы блудзім ў тумане нашай маладосці.

**Дзіцячыя пытанні**

Хто насыпаў высокія горы?
Хто цясніны ў скалах прабіў?
Як вадой напаўняецца мора?
Хто яе і адкуль нанасіў?

Шчаслівейшы дурны, ці вучоны?
Ці пакорлівы блазны царам?
Каму лепей да твару карона?
Дзе жыцця залатая пара?

Глянь на неба начнога ўбранне –

Зорак ясных суквецці, планет
Праз вясёлку дзіцячых пытанняў
Ты ўбачыш дзівосны сусвет.

## Пачатак вясны

На вятрах зіма памчала –
У госці сівер запрашаў.
Маразы з сабой забрала,
каб цыган кажух прадаў.
    Матылёк расплюшчыў вочы,
    Б'е крыламі па акне,
    Бо зіма не болей ночы:
    Хто на холадзе засне?
На дарогах, на палетках
Снег размешаны з вадой.
Дзед стаіць, як малалетка,
Зачараваны вясной.

## Бярозавы вецер

За акном бярозка тонкая хістаецца –
Вецер ломіць, ды не можа паламаць.
Цэлы дзень пяе тужліва, надрываецца...
Што ён хоча, аб чым марыць расказаць?
    Абляцеў арлом прасторы акіянскія,
    Біў крыламі, снег на горы закідаў,
    Гарадоў і вёсак вулачкі мяшчанскія
    Абабегаў, нат у вокны заглядаў.
Каб жа ведаць гэта мову векавечную,
Вольна, лёгка, па-сяброўску размаўляць,
Таямніцы разгадаць яго сардэчныя,

Над Зямлёю лёгкай птушкай палятаць.
Дзе знайсці краіну шчасця, вечнай радасці,
Ды любові і кахання без граніц?
Без вайны, калек, хвароб, ляжачай старасці,
З кавалераў ды вясёлых маладзіц?

***

Цела шануе душа чалавечая,
Думкі і справы прыводзіць да згоды,
Неба даруе нам ісціну вечную:
Хочаце жыць?Беражыце прыроду.

Неба начное ўсыпана зоркамі,
Месячык рогам кранае страху.
Вёска з вяселлямі, снегам, вячоркамі
Знікла пылінкай на Млечным Шляху.
Ноч гаспадыняй гуляе па вуліцы,
Тушыць апошнія ў вокнах агні,
Дзед да бабулі сівенькае туліцца,
Просіць успомніць юнацкія дні.
Зорны парад – марш касмічнымі войскамі –
Травы духмяныя сеюць расу.
Жабіным хорам за роднаю вёскаю
Я замяніў бы злы рок і папсу.
Час аглядзецца, час сэрцу даверыцца,
Кінуць свой позірк, дзе вечнасць жыве.
Там, у сузор'і Малая Мядзведзіца,
Зорка Палярная ў небе плыве.

## Віно вінаграднае

Пад небам паўднёвым, на полі шырокім, сярод вінаграднікаў, лозамі ловячых Сонца прамені, вышка ў неба ўздымалася строма. Побач лімана шапталіся хвалі. Тэле-крутыя, нябачныя токі піка яе, бы магнітам, цягнула.

А домік маленькі, што побач туліўся, быў поўны пяшчоты, журбы і кахання.

Сонца, змарыўшыся доўгага летняга дня перападамі, у моры купалася, на адпачынак за край адыходзіла.

Дзеўчына юная чэрпала коўшыкам з бочкі дубовай віно вінаграднае і напаўняла бутэлькі зялёныя цёмна-вішнёвай вясёлаю вадкасцю.

Слёзы празрыстыя, чорныя вочы пакінуўшы, росамі чэрвеня беглі па шчочках дзявочых адна за другою, свой след пабіваючы.

Падалі й падалі кроплі гарачыя ў бочку глыбокую; там у віне раствараліся, самі ж умомант віном станавіліся.

Думкі над крыўдаю плакаць прымусілі і пакідаць маладзенькую шчэ не збіраліся ды не давалі дзяўчыне ніяк супакоіцца.

– Я так кахала яго, наглядзецца ніяк не магла, называла сваім чоловіком, штодзень мілавалася, а чоловік гэты кінуў мэні, кінуў, як рэч непрыдатную. Кляўся яшчэ, абяцаў толькі шчасце, павагу бясконцую ды на аблоках каханне гарачае. Сам жа да шлюбу з другою пайшоў і навекі з другой заручыўся.

Ёй, маладзенькай, адны абяцанкі пакінуў, ды болі сардэчныя, крыўду нязгасную.

Плача дзяўчына, ахутана сумам, як белым туманам, светлымі чыстымі слёзкамі злёгку віно разбаўляе. Думкі яе недзе вельмі далёка, а тое, што побач, не чуе і не заўважае.

Гэта віно непаўторнае, колеру вішанькі спелае, п'юць дэгустатары стольныя, п'юць, разабрацца не могуць, чаго ў ім болей сабралася – крыўды прагорклае, шчасця салодкага, долі салёнае?..

Домік, што ў полі сярод вінаграднікаў сціпла да вежы туліўся, моўчкі глядзеў аканіцамі сумнымі, лёгкім туманам ахутаны, поўны пяшчоты, журбы і кахання дзявочага.

Жоўтыя хвалі лімана блішчаць пазалотаю, весела з шумам на бераг бягуць, на сустрэчу спяшаюцца, і ўсміхаюцца, і разбіваюцца ад пацалункаў яго бессаромных.

Гэтыя хвалі, падобныя нечым на сэрцы ўсіх закаханых, што разбіваюцца, з каменем здрады сустрэўшыся на раздарожжы жыцця непаўторнага – светлага, сумнага, часам вясёлага і незвычайнага.

**Пяючы кранік**

Раніцою трэба мыцца –
У сад мурзатых не бяруць.
Дзімка смелы – не баіцца,
Калі краны загудуць.
  Ды аднойчы дзядзька Вася
  Кранік срэбны разабраў.
  Зноў злажыў. Вада лілася,
  толькі кранік не спяваў.
Просіць маму Дзімка, просіць
І праходу не дае:
"Калі ж кранік загалосіць,
Калі ж кранік запяе?"

**Ля акна**

За сцяной мароз.
Крочыць новы дзень.
Што ён вам прынёс,
Брат Іван Трысцень?
На маім акне
Кветка расцвіла,
Сонца на сцяне,
Кропелькі цяпла.
Бог усім дае
Шчасце ў згодзе жыць,
Свет любві свае.
Што ж лепш можа быць?

**Пісьмо без канверта**

І сонейка ходзіць высока, далёка,
І вецер тужлівыя песні пяе,
А мне без кахання твайго адзінока,
Калі раніцою зязюля куе.
    Што трыццаць гадоў? Як прайшлі – не заўважыў.
    Усё піў ды гуляў, ды капейкі лічыў,
    Што ж, лёс свой не купіш, на шалях не ўзважыш:
    Адно апраўданне на дзесяць прычын.
Хоць вокам адным паглядзець, дзе ты ходзіш,
Ці шчасце знайшла з чалавекам другім?
За руку ўнукаў да садзіка водзіш?
Ці помніш мяне, ці пазнаеш сівым?
    Чаму разышліся? Павер мне на слова:
    Вось нават цяпер зразумець не магу.
    Усмешку тваю ў праменях вясновых,
    Як кроплю бальзаму, у душы берагу.

**Воля**

Воля ў стэпе загуляла з казакамі,
Ром піла ў таверне з маракамі.
То ляціць арлом у неба, за аблокі,
То вядзе народы з цемры ў свет шырокі.
І да нас яна аднойчы завітала.
Запрашаў яе ў госці шчэ Купала...
Толькі тут яе чамусьці не чакалі –
Як жабрачку, ад варот сваіх прагналі.
Воля знойдзе для сябе заўжды прытулак,
Дзе прастор, праспект, а не крывы завулак.
Там, дзе Воля, там багацце і Свабода
Не загіне, не зап’е, не выйдзе з моды.
Каралевай ты была і засталася.
Выбачай, што наша стрэча не ўдалася.
Не крыўдуй на беларусаў, не крывіся,
Хоць праз сто гадоў, але да нас вярніся.

200

**Кастусь**

Таленавіты быў чалавек, знакаміты на ўсю акругу. Калі ў размове называлі гэтае імя, дык было ўсім зразумела, пра каго ідзе гаворка, хоць Кастусёў на вёсцы было некалькі. Дзеці падрасталі, і дзяцей сталі называць з дадаткам – Андрэй Кастусёў, Вера Кастусёва. Гэта было адзнакай павагі да чалавека.

Дзяцей было шмат, і ўсіх выгадаваў, вывеў у людзі. Цяпер трое дзяцей ужо многа, а некалі і дзесяць было

звычайнай справай. Той далёкі час, на рубяжы XIX і XX стагоддзяў, даволі складаны, каб зразумець, асэнсаваць жыццё нашых продкаў, папраўдзе, не такіх ужо далёкіх ад нас. На вёсцы, акрамя пана і яго сям'і,
было яшчэ два ці тры чалавекі, якія маглі чытаць і пісаць. Кастусь, акрамя граматы, быў яшчэ і кемлівы ад прыроды. Таму і цягнуліся да яго людзі па дапамогу. Прачытаць паперу якую з горада, ці прашэнне напісаць – усе ідуць да Кастуся. Сыны падрасталі, дапамога бацьку. А бацька любіў парадак. У хаце чыста і акуратна. Дровы складзены як пад лінейку, плугі і бароны блішчаць як памытыя, збруя моцная, конь накормлены. Адным словам, добры гаспадар, моцны. І ўсё добра было, але прыйшла навала з усходу – бальшавікі. Адбылася, прагрымела рэвалюцыя ў Расіі.

Гук яе даляцеў і да Беларусі. З Санкт-Пецярбурга і Масквы бальшавікі на штыках неслі свае ідэі ва ўсе бакі, ускалыхнулі ўвесь свет. І на вёсцы пайшла трасяніна, беспарадкі. Больш за ўсё трэслі моцных гаспадароў. Чалавек, які добра працуе, умее весці гаспадарку, чамусьці стаў вінаватым. Забіралі зямлю, коней, гумны… Самых заможных нават высылалі ў Сібір ці на Салаўкі. Забралі каня і ў Кастуся. Ён моцна перажываў, шмат перадумаў над тым, што здарылася. Пасля горкіх расчараванняў прыйшла радасць. Дзякаваў Богу, што яшчэ пакінулі на свабодзе, не арыштавалі. А працы ён не баяўся. Працаваць умеў і любіў. Занятак знайшоў хутка: пачаў вырабляць бочкі. Якія гэта былі бочкі? Пра іх трэба пісаць з вялікай літары. Сто гадоў ужо жывуць яго бочкі і служаць людзям. Ёсць бочка вышэй чалавека, а ёсць з драўлянымі абручамі. З гнуткай арэшыны гнулі абручы і злучалі не цвікамі, а замкамі (зашчэпамі). З суседзямі стараўся жыць дружна, не сварыцца за пядзю зямлі. Калі жаніў сына Андрэя, дык казаў жонцы:

– Ідзі кліч сваякоў на вяселле, аднак не вельмі старайся, бо калі ўсе прыйдуць, дык не будзе дзе і суседа пасадзіць.

Пасля рэвалюцыі бальшавікі былі нядоўга. Хутка прыйшлі палякі. Быццам бы наладзілася жыццё на вёсцы. Кастусь працаваў у гміне. Усім былі патрэбны граматныя, талковыя людзі. Аднак праз 19 гадоў бальшавікі вярнуліся зноў у Заходнюю Беларусь. Дзед Кастусь моцна пастарэў, больш сядзеў каля хаты і не пабег з маладымі глядзець на новых гаспадароў. Прайшла гадзіна, другая, а з гасцінца ніхто не вяртаецца. Не вытрымаў дзед, пасадзіў на плечы ўнука Антона і пакрочыў на гасцінец. Па дарозе бясконцай чарадой ішлі чырвоныя часці. Змораныя людзі, у прапыленых старых шынялях, коні худыя цягнуць гармату. Паглядзеў дзед на чырвонаармейцаў, на іх вінтоўкі, на іх “тэхніку” і махнуў рукой. Узяў Антона за руку ды і кажа: “Ну што, унучак, пойдзем ужо дахаты, няма тут чаго глядзець: якімі былі, такімі і засталіся”.

Адну толькі прамашку зрабіў Кастусь. Калі спраўляў вяселле сыну, то залатыя манеты аддаў на гарэлку, на закуску, а бумажныя царскія грошы пакінуў. Прайшлі гады, грошы мяняліся многа разоў, і царскія крэдытныя білеты, якія мелі ў свой час залаты эквівалент, высокія гарантыі, цяпер толькі прыгожыя бумажкі. А вось золата заўсёды ў хаду. Вось каб тое золата, што было затрачана некалі, засталося ляжаць у схованцы, а не бумагі царскія, дык можа хоць дзеці яго ці ўнукі змаглі б купіць за яго што-небудзь. А так і сам не спажыў, і дзецям не дасталося. Але ці заўсёды гэты жоўты метал нясе шчасце і радасць? Бывае ўсякае. Хто ведае, як было б, каб яно засталося і потым знайшлі? Можа, і не памыліўся дзед? Можа, і добра зрабіў стары Кастусь?

Пабудаваў новую хату. Аднаго толькі чалавека наняў – вопытнага знакамітага будаўніка Юзафа. Пілілі дошкі з

бярвення ўручную, стругалі рубанкам. Вокны Кастусь рабіў сам. На аканіцах вырабляў мудрагелістыя ўзоры. Юзаф камандаваў усёй будоўляй, а сыны маладыя выконвалі цяжкую працу. Хата атрымалася на славу. Сяляне прызналі, што новая хата Кастуся – самая лепшая на вёсцы. А дзед не зазнаваўся, ён проста меў пачуццё ўласнай годнасці. Казаў: “Забраць ты ў мяне можаш, а вось даць, калі я не хачу, не зможаш”. З першага моманту здаецца, што гэта нейкая бязглуздзіца, і толькі добра падумаўшы, знойдзеш глыбокі філасофскі сэнс у гэтых словах.

## **“Хворы”**

Антось пасварыўся з жонкай. Крыку было на ўсю хату. Пасля сваркі залез на печ, лёг там і супакоіўся нарэшце. Так сцішыўся, што і размаўляць перастаў. Ляжыць на печы і маўчыць. Не толькі з жонкай, нават з дзецьмі не размаўляе. Злазіць толькі па сваёй патрэбе ці пакурыць. Дзень ляжыць, другі ляжыць, нічога не есць. Захварэў, мабыць? Жонка два дні маўчала, а на трэці не вытрымала.

– Антось, ідзі есці…

А на печы цішыня… Маўчыць Антось.

– Ідзі… Я вось мачанкі наварыла, ды з аладкамі… Ідзі, а то з’ядуць… Ідзі, хопіць ужо крыўдаваць…

А Антось ні слова ў адказ. Толькі закрактаў і перавярнуўся на другі бок.

– Што гэта будзе? – задумалася Ганна – Каб жа не памёр хаця чалавек з голаду!

Пайшла да суседкі і ўсё расказала, нічога не ўтоіла. Суседка паспачувала Ганне ды параіла не дапякаць больш так мужыку, быць з ім крыху ласкавейшай.

– Ты вельмі яго пакрыўдзіла. Гэта ж хіба можна такое нагаварыць, што мужык ажно захварэў.

Заплакала Ганна, за жывое зачапілі яе словы суседкі. Ішла з цвёрдым намерам прасіць прабачэння ў Антося.

Адразу ж зазірнула на печ, каб пачаць размову. Мужыка ў гэты момант не было. На печы толькі ляжала куфайка старая. Ганна, каб загладзіць сваю “віну”, неяк зменшыць канфлікт, рашыла падкласці на чарон сеннічок, каб мужыку было мякчэй ляжаць і не пякло ў бок. Трэба ж хоць што-небудзь прыемнае зрабіць пакрыўджанаму хвораму чалавеку. Пакуль завіхалася з сеннічком, глянула на каўбасы, што сушыліся над печчу, і войкнула.

– А-во, што ж гэта такое?

Больш палавіны “пальцамі пханых” каўбас ужо не было. Яшчэ тры дні назад былі, а цяпер недзе зніклі. І тут яе пеканула думка, дайшло нарэшце.

– Дык гэта ж Антось іх з’еў. Вось чаму ён нічога не еў тры дні, толькі ваду піў. Ніякі ён не хворы… Ах нягоднік, ах, махляр!

Пабегла Ганна да суседкі, каб расказаць, як выздаравеў Антось.

**Заваявалі**

За вайною след у след, наступаючы на пяткі, ідуць гора і бяда, голад і холад, слёзы і сум. Як толькі людзі ўсё гэта вытрымліваюць? На вайне, што і гаварыць, мала вясёлага, не парадуешся, не пасмяешся. Можаце верыць, можаце не верыць, але смешны выпадак усё ж такі здарыўся ў нашай вёсцы на самым пачатку вайны. Немцы да таго часу ўжо заваявалі палавіну Еўропы. Захмялеўшыя ад перамог і хвалебных прамоў так любімага ў народзе фюрэра, адчувалі сябе вышэйшай

расай. Ідэолагі фашызму ўнушалі ім гэтую думку кожны дзень. І немцы паверылі, што яны асаблівыя людзі, звышчалавекі. Няма ім роўных на зямным шары. Астатнія людзі – гэта ніжэйшая раса, і прыдатныя яны толькі працаваць на “чорных” работах. Ну, а немцы, як вышэйшая нацыя, маюць усе правы, каб імі камандаваць. Адурманеныя прапагандай, немцы рваліся ў бой, да новых перамог, да славы.

Гарачым летам 1941 года батальён СС, па дарозе на ўсход, размясціўся ў беларускай вёсцы на кароткатэрміновы адпачынак. Суткі былі дадзены салдатам, каб адпачыць, прывесці сябе ў парадак і падрыхтавацца да новых баёў, да новых перамог. Салдаты шнырылі па хатах, стралялі курэй, свіней. Добра паабедаўшы, занялiся сваімі справамі. Чысцілі зброю, падшывалі форму, пісалі лісты. А афіцэры зусім расслабіліся, быццам і вайны няма: раздзеліся і разлягліся, як у сябе дома, на зялёнай траўцы загараць. Сонейка прыпякала. Афіцэры жартавалі, скалілі зубы, весела рагаталі. Старыя сяляне глядзелі на іх і здзіўляліся: як гэта могуць дарослыя людзі, афіцэры, раздзецца і на вачах усёй вёскі ляжаць голымі, толькі ў трусах. І зусім не саромеюцца... Для старых беларусаў гэта было дзівам дзіўным. Яны такога не толькі ніколі не рабілі, а нават і не бачылі, і ніколі не чулі. А немцы толькі перакочваліся з боку на бок, каб раўнамерна загарэць. Дзядзька Васіль праходзіў зусім побач і загледзеўся на голых афіцэраў. Утаропіўся і забыўся, што гэта ворагі, заваёўнікі, зусім забыўся пра асцярожнасць. Яму здавалася, што гэта такія ж людзі і зусім не страшныя, асабліва калі голыя… Падышоў зусім блізка, нават не заўважыў… І тут нешта заказытала, засвярбела ў носе. Дзядзька адну дзірку ў носе, як заўсёды ў такіх выпадках, закрыў пальцам, а ў другую так дзьмухнуў,

што ўсё непатрэбнае вылецела куляй. Усё, што было ў носе, паляцела нямецкаму афіцэру проста на сцягняк. Немцы перасталі жартаваць, усе прыціхлі, нібы здранцвелі. Потым яшчэ мацней зарагаталі. Толькі аднаму было не да смеху. Пацярпелы афіцэр крычаў нешта і паказваў пальцам на сваю нагу. Мабыць, ён хацеў, каб дзядзька выцер яе, забраў свой падарунак. Але ж крычаў ён па-нямецку, а Васіль з яго крыку нічога не разумеў, ніводнага слова. Адно яму стала ясна, як сённяшні дзень, што справы дрэнныя. Сэрца калацілася ўсё мацней і мацней, а ў галаве адна думка: "Застрэліць! Застрэліць!" Дзядзька так ірвануў прэч ад голай кампаніі, што ніхто не паспеў яму перашкодзіць. Так хутка не бегаў нават у маладыя гады. Уцякач ведаў тут кожны куточак… Зайцам каля кустоў прамчаўся да гумна і знік за вуглом. Афіцэр дрыжачымі рукамі расшпіліў кабуру, схапіў рэвальвер і кінуўся даганяць нахабніка. Яго, Ота фон К. – немца, прадстаўніка арыйскай расы, заваёўніка ўсёй Еўропы, так зняславілі ў гэтай глухой беларускай вёсцы. Лепш бы куля трапіла яму ў нагу, а то гэтыя … з носа нейкага селяніна. Ота было сорамна перад сябрамі. Калі б дзядзька выцер яму нагу ды папрасіў прабачэння, дык можа ён так і не раззлаваўся б. Хто ведае, як яно было б? Можа, ён і дараваў бы жыццё гэтаму селяніну. А цяпер, калі гэты нахабнік ўцёк Ота троссся ад злосці. Ён бегаў з рэвальверам па вёсцы, шукаў свайго крыўдзіцеля з адной мэтай – застрэліць. Пашанцавала дзядзьку Васілю, не знайшоў яго раз'юшаны немец. Толькі вось страху стары нацярпеўся, што і не расказаць. На другі дзень батальён СС пайшоў далей на ўсход, здабываць славу германскаму войску. Афіцэры пасмейваліся з Ота, а ён доўга не мог супакоіцца. Для яго здарэнне ў вёсцы было кашмарам. Ён

не мог сабе і ўявіць, якія яшчэ кашмары чакалі яго у Расіі, пад Масквой.

**Разбудзіў**

Маладыя хлопцы пайшлі ў суседнюю вёску на гулянку. Танцоры яны былі не вельмі здатныя. У працы ўвішныя, лоўкія, цягавітыя, а да танцаў так сабе. Але калі збіраецца столькі моладзі, дык заўсёды можна знайсці занятак. Выпілі хлопцы гарэлкі і пацягнула іх да дзяўчат. А ноч такая цёплая, лета буяе, кветкі цвітуць, дождж не ідзе, вецер не дзьме, музыка грае. Чароўная ноч, маладым раздолле, ды, на жаль, кароткая, канчаецца хутка. Танцы закончыліся, моладзь разыходзіцца па хатах. Хлопцы бегаюць за дзяўчатамі, праводзяць іх дадому. Сябры вярнуліся ў родную вёску тады, калі на ўсходзе ўжо ружавела неба. Міша пстрыкнуў пальцамі, ляпнуў сябра па плячы.

– Іван, пайду я сёння да цябе пераначую, а то дома мне бацька не дасць паспаць. А спаць так хочацца… З ног валюся.

– Як сабе хочаш, але мой бацька не лепшы за твайго, не дасць разаспацца.

– А-ай… От хадзем дзе ляжам на сене... Мо не знойдзе?

Залезлі на палаткі і адразу ж заснулі. Не паспелі і першага сну дагледзець, як зарыпелі ў хляве дзверы, расчыніліся насцеж. Ранішняе святло ўварвалася рэзка ў вялікі хлеў, ляснула па вачах. Зарыкала карова, зарохкалі свінні, і хлопцы пачулі голас старога Прымака – Іванавага бацькі Андрэя. Хоць звалі яго Андрэй, але за вочы ўсе называлі Прымаком. Уставаў гаспадар рана, сам быў цягавіты ў працы і другім волі не даваў.

– Іван! Іван! Дзе ты, сабачы сын? Я ведаю, што ты тут! Гм… Дзе ж гэта ён схаваўся?

Хлопцы міжвольна заварушыліся. Іван добра ведаў бацьку і хацеў быць як мага далей ад яго, бо стары Прымак не цярпеў непаслушэнства.

– Іван, уставай, касіць пара. Уставай, абібок…

Хлопцы затаілі дыханне, але стары на слых не скардзіўся, ён ужо пачуў шоргат і заўважыў, што нехта варушыўся на палатках. Спачатку хацеў палкай торкнуць, ды з зямлі даставаць было нязручна. Тады стары ўзяў у рукі цэп ды як малатне па хлопцах адзін, другі раз! Міша ляжаў бліжэй да краю і абодва разы атрымаў “прымакову ласку” па баках. Невысокі ростам, але моцны, учэпісты Прымак з цэпам быў на “ты”, працаваў, як жанглёр у цырку. За трыццаць гадоў тоны зерня намалаціў гэтым цэпам, напрактыкаваўся. Маладыя з ім не маглі справіцца. Міша ад болю заенчыў, схапіўся за бок, закрычаў немым голасам.

– Дзядзька, што вы робіце? Дзядзька, ты што, здурэў? Усе рэбры пераломіш.

Стары перастаў лупіць цэпам, залыпаў вачыма. Калі нарэшце разабраўся, што сцебануў не сына, а чужога хлопца, кінуў цэп.

– Іван, хуценька злазь! Пойдзеш касіць канюшыну. А ты, Міша, не сярдуй. Я не ведаў, што ты ляжыш тут, з гэтым абібокам. Сказаў і, каб больш не паўтараць, выйшаў з хлява. Усміхнуўся, як толькі ўспомніў Мішаў крык.

– Але ж разбудзіў, – мармытнуў сам сабе пад нос стары Прымак.

## Капялюш

Час дыктуе моду, звычаі, уплывае на паводзіны людзей. Калі бачу зімой маладых, што бягуць па вуліцы без шапак, з нагала стрыжанымі ці нават брытымі галовамі, пасінелымі ад холаду, як баклажан, дык успамінаю бабуліна апавяданне. Апавяданне пра тое, як мода магла стаць перашкодай зближэнню маладых людзей, разбурыць каханне, умяшацца ў сямейныя справы.

Дзіўна тое, што справа адбылася не ў наш час, калі мода мае вялікі ўплыў на чалавека і яго дзейнасць, а амаль сто гадоў назад.

Дык вось: малады прыгожы хлопец пакахаў дзяўчыну, бабуліну старэйшую сястру Шуру. Шуры было дзевятнаццаць гадоў, а бабулі толькі адзінаццаць. Былі яшчэ браты і сёстры, усяго дзесяць дзяцей. Вялікая сям'я, і Шура – самая прыгожая з сясцёр. Яе бацька, стары Пятрусь, ганарыўся дачкой. І неяк вясной, у нядзелю, да хаты, што стаяла на ўскраіне вёскі, завітаў закаханы хлапец з вясёлай кампаніяй. Завітаў з намерам прасіць у дзядзькі Петруся рукі яго самай прыгожай дачкі. Хлапец нядаўна прыехаў з Амерыкі, зарабіў там грошай. Апрануў модны амерыканскі касцюм, папрасіў паважанага чалавека быць сватам і гаваркую сваху запрасіў. Усё як мае быць абставіў, грунтоўна падышоў і з Шурай загадзя перагаварыў. Хлапец быў упэўнены, што яго чакае поспех. На надворку яшчэ раз расчасаў сваю шавялюру і за сватамі зайшоў у хату Петруся. Гаспадар уважліва выслухаў паважанага свата, гаваркую сваху, потым жаніха і сказаў:

– Усё гэта добра, і малады, і прыгожы, і Шуру любіць. Усё добра. Але скажы мне, паважаны кавалер, чаму ты прыйшоў у сваты без шапкі? Ці ты такі бедны, што не

маеш грошай на шапку? Ці такі недарэка, што не ведаеш, як людзі ў сваты ходзяць? Не, не магу я за такога чалавека аддаць сваю дачку замуж. Хлапец збянтэжыўся. Ён не чакаў такой рэакцыі, не ведаў, што і сказаць. Сваты разгубіліся. Нават гаваркая сваха змоўкла. Наступіла цішыня. Чуваць было, як мурчыць кот на печы ды малодшыя дзеці ў чаканні нечага незвычайнага шмыгаюць насамі. Сваха першая ачомалася, рашыла выправіць становішча і зноў сарокай засакатала. "І прыгожы жаніх, і багаты, і што з таго, што без шапкі, затое касцюм які дарагі ды прыгожы". Але стары Пятрусь не захацеў яе больш слухаць. Ён сваё слова сказаў. Сваты пайшлі дахаты, не дасягнуўшы поспеху. А ў хлапца ажно слёзы на вочы набеглі. "Як жа гэта? Няўжо такое можа быць? Не склеілася вяселле з-за таго, што жаніх быў без шапкі?" Хлапец доўга перажываў, але рашыў не адступаць, ён жа вельмі кахаў Шуру. Ды і на бацьку не трэба крыўдзіцца. Прайшоў тыдзень. Хлопец паехаў у горад, каб купіць шапку. Зайшоў у лаўку да старога жыда, расказаў там пра свае цяжкасці і папрасіў разумнай парады. Стары Хаім уважліва выслухаў кліента, пашкроб мудры лоб і сказаў:

– Слухай, хлопец, што я табе скажу, бо тое, што скажа Хаім карысна паслухаць кожнаму добраму чалавеку. Я прадам табе шапку, якую ты захочаш, але табе лепш купіць капялюш. Гэта якраз тое, што табе трэба, ад чаго памякчэе бацькава сэрца.

Хлапец уважліва слухаў Хаіма. Гандляр змог пераканаць яго ў слушнасці сваёй парады. Хлапец купіў капялюш і рашыўся ісці ў сваты яшчэ раз.

Стары Пятрусь агледзеў жаніха, задаволена ўсміхнуўся і сказаў:

– Ну, вось цяпер другая справа. Я згодзен. Жаніцеся. Нараджайце ўнукаў і не забывайцеся пра шапку.

Жаніх узрадаваўся. Ён падумаў, што шапку насіць будзе, каб з цесцем не спрачацца, але даў сабе абяцанне, што дзяцей сваіх прымушаць не будзе. Чатыры прыгожыя дачкі нарадзіла Шура, і ні аднаго сына. Мабыць, таму, што жаніх, яе будучы муж, паабяцаў сабе не прымушаць сваіх дзяцей насіць шапкі. Сам жа насіў капялюш і на вяселлі, і пасля вяселля. Ён адзін хадзіў па вёсцы пад капелюшом. Можа, таму і празвалі яго "Шляпа". А яго дзяцей звалі "Шляпавымі"… І цяпер завуць. А вы кажаце, што цяпер мода, мода… А некалі?..

## Чырвоныя шапкі

Вёска была такая вялікая, а вуліца здавалася доўгай-доўгай. Пяцігадовая Шура жыла амаль на краю такой вялікай вёскі. Ёй хацелася хоць раз пабачыць, што ж знаходзіцца на другім канцы сяла. Але гэта было і цікава, і крыху страшнавата. Бацькі не дазвалялі далёка адлучацца ад хаты, а сама выправіцца ў такі шлях яна не асмельвалася. І вось аднойчы мама дала ёй адказнае даручэнне.

– Шурачка, сходзіце з Веркай да цёткі Зіны і папрасіце, каб яна прыйшла да нас.

Верка была старэйшая на два гады за Шуру. Яна ўжо двойчы была на другім канцы сяла, ведала, дзе жыве цётка Зіна. Наогул, Верка здавалася Шуры даволі вопытным і аўтарытэтным чалавекам. Дзяўчаткі ўзяліся за рукі і рушылі па вуліцы ў невядомы свет. Мама крыкнула ім наўздагон:

– Дубец вазьміце, хоць сабак адганіце…

Верка ўзяла дубчык, і дзяўчынкі яшчэ больш рашуча накіраваліся дарогай, поўнай новых неверагодных прыгод. Каты і сабакі не набліжаліся да іх, мабыць,

баяліся атрымаць дубца. Сялянскія хаты стаялі паабапал вуліцы. Лета было ў самым разгары, стаяла цудоўнае надвор’е, цвілі мальвы. У агародчыках, каля кветак, завіхаліся жанчыны. Пакідалі працу і глядзелі на малых.

– Куды ж гэта вы, дзяўчаткі, ідзеце?

– Да цёткі Зіны, мама паслала.

– Ой, якія вы малайцы! Ну, ідзіце дзяўчаткі, ідзіце.

Так прыемна, калі цябе хваляць. Дзяўчынкі весела крочылі далей. Чарада гусей незадаволена загагатала. Вялікі белы гусак кінуўся на дзяўчынак, але Верка сцебанула яго дубцом, і дзеці, азіраючыся на гусей, подбегам мінулі небяспечны адрэзак шляху. З палёгкай уздыхнулі: ”Ну быццам бы усё добра, прайшлі палову дарогі”.

Але ў гэты час з-за плота выскачылі два хлопцы з дубцамі. Абодва выпацканыя, босыя, у доўгіх кашулях да пят і ў чырвоных шапках. Асабліва напалохалі дзяўчынак іх ваяўнічы выгляд і гэтыя чырвоныя шапкі. Пашытыя са старой матулінай кофты, сваім яркім колерам і формай надавалі незнаёмцам незвычайны выгляд. У гэтых шапках хлапчукі былі як красналюдкі (маленькія чалавечкі). Выглядалі вельмі ваяўніча, да таго ж яшчэ размахвалі дубцамі, як шаблямі, і крычалі.

– Вы чаго прыперліся з таго канца?...

– Што вам тут трэба?..

– Вось мы вас зараз…

Верка і Шура зразумелі, што гэтая небяспека шмат большая, чым гусі. Яны разам павярнулі назад і кінуліся наўцёкі. Беглі паўз дамы, паўз гусей і спыніліся, калі зразумелі, што хлопцы засталіся ўжо далёка ззаду і не гоняцца за імі. А тыя хлопцы ў чырвоных шапках таксама баяліся сабак і гусей. Ім бацькі таксама не дазвалялі далёка хадзіць ад хаты. Дома дзяўчынкі сказалі

маме, што іх не пусцілі нейкія хлопцы ў чырвоных шапках.

Праз семнаццаць гадоў Шура выйшла замуж за аднаго з гэтых хлопцаў. Яны ўспаміналі разам, калі ж упершыню сустрэліся. Аказалася, што першая сустрэча адбылася амаль семнаццаць гадоў назад. Успомнілі і пра шапачкі чырвоныя… Успомнілі і пасмяяліся.

## Мянушка дапамагла

Бальшавікі абклалі сялян рознымі паборамі. Кожнаму гаспадару трэба было адрабіць “шараварку” ды яшчэ кубаметры драўніны з лесу на конях вывезці да железной дарогі. Нарыхтоўка лесу на “метры” – гэта і валка, і ачышчэнне ад сукоў, і тралёўка да пад’язных дарог. Што і казаць, цяжкая праца. Мужчыны загадзя рыхтаваліся да паездкі. З сельсавета прыходзіў наказ – колькі лесу нарыхтаваць, месца нарыхтоўкі і дзень, калі выязджаць на працу. Мужчын забіралі надоўга ды і не плацілі нічога. На тры, чатыры дні, а то і болей пакідалі яны родную вёску, сям’ю, гаспадарку ды ехалі на сваіх фурманках у лес. Напярэдадні збіралі ў торбу хлеб, сала, яйкі, цыбулю, змазвалі калёсы, раней клаліся спаць. А раненька, цэлы абоз фурманак на досвідку, выпраўляецца ў далёкі шлях. Увесь дзень мужчыны валілі лес. Потым тралявалі на дарогу коньмі ўжо ачышчаныя ад сукоў бярвенні. Да бліжэйшай вёскі добры дзесятак вёрст, навокал густы лес. Толькі адна хата лесніка побач, дзе можна знайсці прытулак: пераначаваць, адпачыць, павячэраць, папіць гарбаты.

А заўтра зноў на працу, зноў валіць лес, нарыхтоўваць “метры”. Гаспадар хаты, ляснік, яго жонка, сястра і маці – людзі добрыя, набожныя каталікі. Яны дапамагалі

людзям як маглі. Усіх размясцілі на начлег, свежую саломку разаслалі на падлозе, накрылі дзяружкаю. На лаўках абсталявалі тапчаны, занялі ўсё, дзе можна паспаць.

Платон – каржакаваты, моцны, як граб, мужчына, заўсёды надзьмуты, быццам нечым незадаволены, выйшаў з хаты. Ён не спяшаўся класціся спаць. Паглядзеў, ці ёсць сена ў каня, ці добра зачынены хлеў. Ці мала што можа быць? Усё ж такі лес навокал. Выкурыў яшчэ цыгарку, пастаяў крыху каля хаты. Будынак вялікі, прасторны, месца хопіць усім. А ў хаце ўжо клаліся спаць. Дзядзька Васіль заўважыў, што няма Платона, і запытаў:

– І дзе ж гэта “ксёндз” падзеўся?

– Можа, каня свайго глядзіць…

Леснічыха насцярожылася. Прыслухалася да размовы прыезжых мужчын. Яе вельмі здзівіла, што ксёндз працуе разам з усімі на нарыхтоўцы лесу.

– А што, і ксёндз з вамі працуе?

– А як жа…Бальшавікі ўсіх выгналі на метры. Што ім ксёндз? Яны ж нічога не прызнаюць.

– Вой-ё-ёй… Няўжо ж так можна? Самога ксяндза, ды на такую працу цяжкую… Ніякага павадзэння…

Калі Платон зайшоў у хату, дык нічога не зразумеў. Бабы глядзелі на яго так ласкава і гаварылі так ветліва, што ён разгубіўся.

– Пане ксёнжэ, пойдзем у другі пакой, там мы вам на ложку паслалі. Падрыхтавалі ўсё… будзеце спаць асобна.

Як расказваў потым сам Платон, усе бабы хадзілі перад ім на пальчыках. Незадаволена ківалі галавой, спачувалі:

– Пане ксёнжэ, пане ксёнжэ, якія гэтыя бальшавікі нехарошыя, і вас не пашкадавалі, выгналі ў лес на метры.

Спаць паслалі на пярыне. Усё чыста, утульна. Есці давалі самае смачнае, і кваску папіць, і гарбаты з варэннем. Мужчыны таксама сцярпелі, не сказалі нікому, не прызналіся, што “ксёндз” – гэта толькі мянушка.

Нарэшце закончылася гэтая цяжкая праца. Нарыхтавалі лесу колькі патрабавалася. Дамоў збіраліся хутка. Падзякавалі добразычлівым гаспадарам і рушылі ў дарогу. Калі выехалі на ўскраіну лесу, далі сабе волю. Рагаталі так, што птушак у лесе распужалі. Дахаты прыехалі вясёлыя, бадзёрыя, быццам і не працавалі. Жонкі пазіралі на іх і дзівіліся: што ж такое, ці працы было мала, ці можа выпілі ў дарозе? А мужчыны толькі пасмейваліся.

**Куртка**

Летам 41-га года, у першыя дні вайны, неба над вёскай чыстае-чыстае… Сонейка свеціць ласкава, усім свеціць, не выбіраючы горшых ці лепшых. І сярод гэтай прыгажосці ў чыстым блакітным небе завязаўся бой. Сышліся два асы – нямецкі і савецкі. Жорсткая была сустрэча. Страшна было глядзець, нават вельмі небяспечна і страшна, але цікава. Ніхто і ніколі такога раней не бачыў. Ведалі сяляне, што самалёты лётаюць высока над зямлёй. Можа, каму і пашанцавала бачыць, як сталёвая птушка, грукочучы, праходзіла ў небе па курсу… А тут адразу два самалёты ваенныя, баявыя… Хто смялейшы, дык ціхенька віжаваў, не вельмі высоўваючыся, не адыходзячыся ад хаты. Самалёты сыходзіліся і разыходзіліся, то ўверх уздымаліся, то кідаліся ўніз. Навакольнае паветра дрыжэла ад выцця сталёвых птушак. Раптам нямецкі самалёт задыміўся і

пачаў падаць. Ад машыны аддзялілася нешта невялікае. Гэта нямецкі лётчык шукаў сабе паратунку, з апошняй надзеяй на парашут. Палаючы, як бяроста, самалёт урэзаўся недзе за пагоркамі ў зямлю. Грымнула так, што шыбы задрыжалі ў вокнах. Хваля паветра, сціснутая невядомай сілай, пранеслася, як віхор. Куры беглі не ведаючы куды, спалохана кудахталі, коні стрыглі вушамі, сабакі хаваліся ў будкі. Потым усё сціхла, толькі за ўзгоркам узнімаўся дым над збітым самалётам. Савецкі лётчык быў задаволены, яму сёння пашанцавала, і ён з радасцю вяртаўся на базу. Немец апускаўся на парашуце. Што яго чакае? Чужая зямля. Варожыя людзі. Самыя цікаўныя ўжо беглі на выган, куды паволі зніжаўся нямецкі летчык. Вельмі ж хацелася пабачыць жывога немца. Дзед Ахрэм быў бліжэй за ўсіх да месца здарэння, амаль побач. Ён дасягнуў такога ўзросту, калі ўжо і паміраць не страшна. Увесь паядынак назіраў не хаваючыся. Стаяў на выгане і, абапёршыся на кій, з цікавасцю чакаў, што ж з гэтага атрымаецца. Немец на парашуце апусціўся амаль на галаву дзеду. Лётчык адчапіў лямкі, агледзеўся. Першае, што ўбачыў на варожай яму зямлі, было зусім не страшным. Белы, як лунь, дзядок, стаяў, абапёршыся на кій, і з цікавасцю назіраў за чужынцам. З вёскі беглі сяляне – старыя і малыя. З другога боку – людзі з вінтоўкамі… Чырвонаармейцы… Уцякаць позна… Ды і куды ўцякаць? Немец зняў цёплую футравую куртку і аддаў дзеду. Нешта сказаў па-свойму. Магчыма, такое:

– Насі, дзядуля, бо яе ў мяне ўсё роўна адбяруць.

Дзед збянтэжыўся. Ён узяў куртку, ды не ведаў, што з ёй рабіць, што казаць. Толькі кланяўся немцу. Прыбеглі людзі, акружылі іх з усіх бакоў. Адзін з чырвонаармейцаў стукнуў немца прыкладам у спіну,

забраў рэвальвер. Потым загадалі падняць рукі і пагналі ў штаб.

Куртку, падораную нямецкім лётчыкам, футравую, цудоўную, незвычайную куртку, чырвонаармейцы забралі ў дзеда. Колькі жыў стары – успамінаў гэтую куртку:

– Эх, ёлкі-палкі, нават не апрануў ні разу, не прымераў.

**Прагаладаўся**

Вяселлі ў вёсцы гулялі даволі часта. Вёска вялікая, моладзі шмат. А дзе моладзь, там і каханне, і вяселлеў па некалькі на год. Ужо бабам раздолле, хоць ёсць аб чым пагаварыць. Усё сяло гудзе. Перад вяселлем заўсёды ходзяць размовы пра маладых. Абгавораць з усіх бакоў, хто прыгожы, хто брыдкі. Не гаварылі “прыгожы” ці “красівы”, гаварылі – харошы. Перагавораць, хто багаты, хто бедны, хто жэніцца па каханні, а хто за багаццем гоніцца, ці бярэ шлюб пад прымусам. Як разведчыкі, усё вынюхвалі: і хто што сказаў, і саперніцы ў каго ёсць, хто з ахвотай жэніцца, а хто і не вельмі. А вось увечары ішлі на вяселле пад вокны і ўсё выглядвалі, віжавалі. Аднойчы так лезлі паглядзець, што шкло ў акне не вытрымала. Ды лезлі не якія там падшыванцы, а самастойныя, замужнія пажылыя бабы. Стаялі ля акон і глядзелі, як гуляюць людзі на вяселлі, як п’юць ды ядуць. Бабы за сталом непрыкметна бралі кусочкі куплёнай каўбасы, закручвалі ў насоўку і хавалі ў кішэню. Потым неслі дамоў дзецям паласавацца. Сваёй каўбасы хапала, а вось куплёную бачылі рэдка, таму і неслі дзецям, хоць і непрыгожа так рабіць. Каравай дык абавязкова неслі

дахаты, а кавалеры выходзілі на двор і частавалі дзяўчат, што туліліся каля платоў на вуліцы. Цікава паглядзець на вяселле, бо другіх забаў амаль не было. Гэта цяпер тэлебачанне, радыё, магнітафоны, камп`ютэры. А ў той час музыку толькі і пачуеш, што на вяселлі: электрычнасці ж не было.

Дзеда вельмі часта запрашалі на вяселле. І бабуля хадзіла з ім, пакуль была маладая, а пад старасць ёй надакучыла ўсё гэта. Што рабіць дзеду? Адзін хадзіў на ўсе такія вясёлыя гулянкі.

– Бабуля, чаму ты не ходзіш з дзедам на вяселлі? - запытаў унук.

– Ой, Валік, мне ўжо надакучыла хадзіць па вяселлях.
– А дзед чаму пайшоў?

– О-о-о дзед… Бо ён выпіць любіць. Да таго ж яму абавязкова трэба там быць. Ён жа бацька хрышчоны ў маладога.

– Дык ён жа Мішку Ясевага і Лявонаў хрысціў.

– Ой, ён, можа, трыццаць чалавек хрысціў. А цяпер толькі ходзіць па вяселлях ды п’е.

Валік ведаў, што дзед каўбасы ці якога другога гасцінца з вяселля не прынясе. Бабуля прынеслаб, а дзед не. Позна ўвечары, добра выпіўшы, “прыплывае” дзед. Ён бярэ вілкі і лезе ў печ. Доўга бразгае засланкай, бурчыць нешта незадаволена. Нарэшце выцягвае на прыпек гаршчок з мачанкай. Бярэ гаршчок анучай, каб не апячыся, ставіць на стол і проста з гаршка пачынае сёрбаць, прыкусваючы аладкамі. Баба паглядзела, як дзед прыхлёбваючы есць, на попел, што п’яны рассыпаў каля печы і на стол занёс, ды не ўцярпела:

– Ты што на вяселлі не наеўся? Не было чаго есці?

– А што табе мачанкі шкада? – буркнуў дзед.

Бабуля больш нічога не сказала. А дзед даеў усю мачанку і лёг спаць.

– І так заўсёды, – заўважыла бабуля. – Як прыйдзе з вяселля, дык есці хоча. Як галодны, да печы кідаецца, усе гаршкі апаражняе.

А дзед, задаволены, што нарэшце паеў, ужо спіць, толькі носам пасвіствае.

**Франя**

Падляшанцы ніколі не дружылі з Вашкамі. Калі сустрэнуцца ў лясочку ці на сажалцы, заўсёды бойкі. Дарослыя жылі дружна, а хлапчукі вялі сапраўдную вайну. У лесе, які лічыўся вотчынай падлескіх задзіракаў, іх сапернікі адчувалі сябе даволі няўтульна. Трэсне дзе сухая галінка – і ўсе хлапчукі ўздрыгваюць як па камандзе, а ў галовах адна думка: ”Падляшанцы!!!” Як жа не хвалявацца – Падлессе тут, побач, а да Вашкаў чатыры з паловай кіламетры. Вось на сажалцы зусім іншая справа. Яна размясцілася на роўнай адлегласці да вёсак. Была тут сядзіба паноў Мілавадскіх пры польскай уладзе, а цяпер застаўся толькі хутар. Сажалка, прыгожая, выкапаная сялянскімі рукамі сярод зялёных лугоў і палёў на даволі высокім месцы, не перасохла за некалькі дзесяткаў гадоў. Хутчэй за ўсё ў гэтым месцы з зямлі выходзяць крыніцы, якія і падсілкоўваюць дзівосную сажалку на ўзгорку. Мала таго, што яна чыстая і можна купацца, дык і рыба вядзецца. Вось гэта і вабіла да сябе не толькі дзяцей, а і дарослых. Самыя малыя хлапчукі, гадоў дзесяці-дванадцаці, ніяк не маглі разабрацца, чыя гэта тэрыторыя. Тут ужо вашкаўскія хлапчукі былі больш упэўненыя ў сваіх сілах. Звычайна ўсе бойкі праходзілі за тое, каб даказаць, хто тут

гаспадар, каму купацца і рыбу лавіць, а каму так абыходзіцца.

Сышліся аднойчы над сажалкай два варожыя гурты і паляцелі спачатку брыдкія словы, а потым і камяні. Зблiжацца баяліся, і камяні часцей за ўсё не далятапі. Сілы былі прыблізна роўныя, і Вашкі ўжо рыхтаваліся да рашучых дзеянняў, каб гнаць “чужакоў” са “сваёй” тэрыторыі. Яны наступалі, а іх праціўнікі адгыркваючыся адыходзілі.

І ў гэты момант да падляшанцаў прыйшла дапамога. Дзяўчынка выскачыла з хаты і далучылася да адступаючых. Яна здавалася старэйшай на год ці паўтара за сваіх сяброў. Такая высокая, стройная, загарэлая, у кароткіх шортах і маечцы, пад якой ужо раслі, наліваліся сокам узгорачкі грудзей… і незвычайна прыгожая. Такой яна здалася Валіку, які ўпершыню ўдзельнічаў у баталіі. Яму здавалася, што ён ніколі не бачыў такой прыгажосці.

– Хто гэта? – не чуючы свайго голасу, спытаў ён у сябра Віцькі, а той шпурлянуў камень і ўжо шукаў другі сярод рэдкай травы.

– Гэта? – выгукнуў Віцька і здзіўлена паглядзеў на сябра. – Гэта Франя!

– А-а-а…Франя, – амаль прашаптаў перасохлымі губамі Валік. Ён каўтануў слюну і заківаў галавой…

– Франя…

Ён глядзеў на Франю не адрываючы вачэй, як быццам нікога не было навокал. Незвычайнай прыгажосці дзяўчынка не ішла, а плыла, як парусная беласнежная яхта над хвалямі. Яна не бегла, яна ляцела амаль не дакранаючыся да зялёнай травы. Быццам Жанна д’Арк вяла сваіх сяброў наперад. Раптам хлопчык зразумеў, што ён застаўся адзін супроць ворагаў, што стаяць і глядзяць вельмі небяспечна. Ужо бачыў, як уцякаюць яго паплечнікі, забыўшыся пра сажалку, пакідаўшы

каменьчыкі на полі бою. Ён не паспеў наглядзецца на Франю, а трэба ўцякаць. І не насустрач ёй, а ад яе. Яны ж ворагі. Паражэнне было поўным, але Валік не думаў пра гэта. Ён думаў пра дзяўчынку як пра цуд, з незвычайным іменем Франя. І праз дзень не забыўся, і праз год. Здарылася так, што ён больш не бачыў Франі, ні разу не размаўляў і не чуў яе голасу. Толькі вобраз яе, прыгожы і гераічны, надоўга застаўся ў памяці.
Хоць гэта былі дзіцячыя забавы і думкі дзіцячыя. Ну і што з таго?

## Марожаныя яблыкі

Вецер за акном не сціхае ўжо трэці дзень. Мароз крыху паменшаў, а вецер ніяк не супакоіцца. Затоіцца на імгненне, прыціхне, а потым зноў паказвае свой суровы нораў. Незадаволена гудзе, грукае аканіцамі, то вые, то свішча за сцяной. Паўночны вецер у каторы раз ідзе ў наступ на дамы, на дрэвы, на ўсю вёску. Над полем ён поўны ўладар, носіцца, гуляе без затрымкі, здзірае снег і гоніць яго куды хоча, а тут толькі і змог дабіцца, што садзьмуў снег з клёна. Зусім нядаўна была адліга, падаў снег вялікімі здвоенымі сняжынкамі, асядаў на галінках дрэў. Летам дрэвы пакрывала зялёнае лісце, а цяпер яны стаялі незвычайна белыя і не менш прыгожыя. Ды наляцеў калючы паўночны вецер, і вось цяпер яны голыя, хістаюцца, як п’яныя. Няма на іх зялёнага летняга ўбору, няма зімовага ўпрыгожвання – белага інею. Ды яшчэ і паўночны свавольнік калашмаціць іх, тузае, быццам хоча зламаць. Бедныя дрэўцы, як яны вытрымліваюць: і мароз іх цісне, і вецер не дае спакою. Ванік днём доўга глядзеў праз акно на высокі клён, што расце ў агародчыку каля вуліцы. Неяк непрыкметна наступіў вечар, і стала зусім

цёмна. У хатах загараліся лямпы-газнічкі. Бабуля выцерла шкло ў лямпе паперай, ачысціла ад куродыму. У хаце значна пасвятлела. Дзед Андрэй збіраецца ісці на сяло, апранае кажух, цёплую шапку.

– Пайду да Савецкага…

– Схадзі ў камору, прынясі нам марожаных яблык, – просіць бабуля, – ды потым пойдзеш. Паспееш яшчэ наседзецца ў тым дыме. Я аднойчы зайшла туды, дык і мінуты не змагла выседзець… Кашаль задушвае… Гэтак накурылі, што не прадыхнуць, хоць сякеру вешай. Як гэта можна столькі курыць?

Дзед нічога не адказаў. Проста ўзяў лямпу і пайшоў з місачкай у камору. Толькі за ім закрыліся дзверы, як невядома адкуль у хату завітала сапраўдная казка... Мабыць змерзла, ды зайшла крыху пагрэцца. Адразу навокал стала цёмна і ціха. Дровы ў печцы разгараліся. Языкі полымя скакалі ў неверагодным фантастычным танцы. Яны раптоўна з'яўляліся, імгненна прападалі, а на іх месцы ўзнікалі новыя. І ўсё гэта несупынна і так хутка, што нельга было зразумець, што ж гэта такое – агонь. Ванік сядзеў на дзедавым ложку, які стаяў насупраць печкі, і глядзеў, як гараць дровы. Дзверцы былі напалову адчынены, і ў пакоі было крыху святлей, а вось на кухні ды ў бакоўцы зусім цёмна. Па сцяне бегалі дзіўныя цені. Язычкі полымя адбіваліся на сцяне. Яны здаваліся хлопчыку казачнымі істотамі. Ванік любіў глядзець на агонь, любіў назіраць, як скачуць языкі полымя ў печы, як бегаюць цені па сцяне. Ён любіў гэтыя казачныя хвіліны, якія прыходзілі, калі дзед ішоў па яблыкі. Бабуля ў гэты час, сядзіць на палку ў бакоўцы, з другога боку печы. Кнігу з рук не выпускае, чакае дзеда.

– Нешта стары доўга не ідзе. Ванік, падкінь дроў у печку.

– Яшчэ тыя не перагарэлі, я потым падкіну, – адказвае ўнук. Яму не хочацца злазіць з дзедавага ложка, не хочацца парушаць гэтай цішыні, разбураць гэтае казачнае царства.

Нарэшце грукнулі дзверы. Дзед прынёс поўную місачку марожаных яблык. Яркае святло лямпы слепіць вочы пасля цемры. Дзед нясе лямпу і яблыкі ў бакоўку.

– Ну, усё, я пайшоў.

– Ідзі ўжо, ідзі. Добра слухай, можа, Раманчук раскажа пра графа Монтэ-Крыста… Запамінай усё, і нам потым раскажаш.

Дзед бярэ кіёчак з цвіком, каб на зімовай дарозе не слізгаўся, і ідзе да Савецкага.

Тут збіраюцца мужчыны з усёй вёскі, пагаварыць ды другіх паслухаць. Бабуля ўзяла два яблыкі, што прынёс дзед, пастукала адзін аб другі. Цюк-цюк – як каменьчыкі адазваліся, марожаныя антонаўкі.

– Ой, унучак, яны і да раніцы не растануць. Гэта ж трэба было мне ўжо днём прынесці іх у хату. Цяпер былі б добрыя, якраз. Але пачакай, недзе ў нас учарашнія засталіся, пару штук не здужалі.

Яна дастала з “прамуды”, змураванай у вялікай печы, маленькую місачку. Там ляжала адна пачатая ўчора ўвечары антонаўка і ажно тры цэлых.

– Ну, вось гэтых нам сёння хопіць. Падкінь яшчэ дроў ды будзем есці.

Ванік закінуў у печку некалькі тоўстых пален, каб не бегаць часта, і вярнуўся да бабулі. Яны сядзелі на палку, каля цёплай печы, і елі яблыкі. З восені клалі антонаўкі ў халодную камору, а потым у хаце размарожвалі. І ўнуку яны падабаліся. Хоць зверху крыху пацямнелі, а ўнутры светлыя, чыстыя, амаль белыя. Смак іх ужо не такі як асенняй антонаўкі, але таксама прыемны і нейкі асаблівы. Калі з’елі яблыкі, бабуля зноў падсунулася

бліжэй да лямпы і працягвала чытаць кнігу. Чытала ўголас. Яна хацела, каб унук даведаўся пра Рабінзона, які плыў па далёкім моры і трапіў на бязлюдны востраў, як ён вырataваўся і выжыў, яна чытала пра Герасіма і дзеда Мазая. Хлопчыку вельмі падабалася слухаць, як бабуля чытае. Ён ціхенька сядзеў, слухаў вельмі ўважліва і не заўважыў, як заснуў. Бабуля не будзіла ўнука. Яна паціхеньку яго разула, зняла верхняе адзенне, накрыла коўдрай. Потым патушыла лямпу і лягла спаць. Ванік не чуў, як вярнуўся ад Савецкага дзед, як закрываў патухшую печку і комін. Ванік спаў. Яму сніўся цудоўны каляровы сон. Быццам бяжыць ён па выгане. Цёплы летні дзень, свеціць сонейка, зелянее трава. І раптам з неба пасыпаліся рознакаляровыя алоўкі. Усе такія яркія, прыгожыя, усе новенькія, яшчэ нават не завостраныя. І так многа, што хопіць усім дзецям вёскі. Так многа, што бяры хоць поўны кошык. Ванік збірае каляровыя палачкі, а яны ўсё сыплюцца і сыплюцца. Хлопчык усміхаецца ў сне. Яму добра і радасна.

**Шчупачкі ў садзе**

Даўно не было такога гарачага і сухога лета. Зямля высахла, патрэскалася, стала падобнай на попел. Лісточкі на дрэвах завялі без жыватворнай вільгаці. Людзі прасілі дажджу, з надзеяй глядзелі на неба. А на небе ні воблачка, да таго ж і вецер сціх. За сухім гарачым днём прыходзіў другі, яшчэ больш гарачы і сухі. Але наступіў нарэшце дзень, які пасяліў надзею ў сэрцах вяскоўцаў. З захаду падзьмуў лёгкі, свежы вецер, які паступова набіраў моц. Па небе пабеглі воблачкі, а за імі і цёмная хмара з’явілася на гарызонце. Яна расла, пашыралася з

кожнай хвілінай. Загрымеў гром. Сцямнела, як ноччу, і толькі маланкі асвятлялі наваколле. Хмары ішлі нізка над зямлёй. А колер іх, цёмна-сіні ўперамежку з жоўтым, наганяў страху на прыціхлых людзей. Маці баялася навальніцы. Яна запаліла свечку і ціхенька малілася. А дзецям сказала, каб апрануліся, не падыходзілі да акна і сядзелі ціха. Дождж пайшоў, лінуў раптам суцэльнай сцяной, як з вядра. Навальніца, такая доўгачаканая – напалохала ўсіх. Маланкі білі і білі, здавалася так блізка, недзе побач з хатай. Страшэнны удар грому – і маланка трапляе проста ў бярозку, якая расла каля суседскага плота. Ванік у гэты момант глядзеў у акно, хоць маці не дазваляла дзецям сядзець ля акна ў час навальніцы. Хлопчык убачыў, як бярозка ўспыхнула яркім полымем. Поўная сокаў, здаровая, з зялёным лісцем, яна пад густым дажджом гарэла, як аблітая бензінам. Сцяна вады не змагла патушыць гэты агонь. Дождж скончыўся гэтак жа раптоўна, як і пачаўся. Неба хутка святлела, ачышчалася ад хмар, зноў выглянула сонейка.

Ванік выскачыў з хаты. Па вуліцы бегла цёплая мутная вада. Дрэвы павесялелі, лісточкі зазелянелі – прырода ажывала. Дзеці ўжо бегалі басаནож па лужынах. Лужыны былі ўсюды, але хлопчык пабег на выган, там было намнога цікавей, чым на вуліцы. Па неглыбокім ручайку бегла, булькатала вада. Тут ніколі не было вады, а сёння булькоча ручаёк. У вадзе, перакульваючыся ў бурлівых струменях, несліся маленькія шчупачкі. Рыба была не толькі ў гэтым раўчуку. Яна была нават там, дзе ніколі не было не толькі рыбы, а і апалонікаў, дзе ніколі не было вады. Хлапчукі лавілі шчупачкоў рукамі, майкамі і неслі іх дахаты. Ванік таксама злавіў некалькі шчупачкоў і ў дзіцячым вядзерцы прынёс іх дамоў. У садзе пасля навальніцы з’явілася невялікая лужынка. Вось туды і выпусціў сваіх шчупачкоў задаволены рыбак.

Вечарам, ужо засынаючы, ён усё думаў пра рыбак, як будзе іх гадаваць у садзе, карміць кожны дзень. Вада ў садзе чыстая, і травічка ёсць. Рыбкам тут будзе добра. На другі дзень хлопчык узяў кусок хлеба і пабег у сад – карміць рыбак. Але за ноч лужынка высахла, а шчупачкі ляжалі на траве і не варушыліся. Яны загінулі ўсе без вады. Ванік глядзеў на іх сумна і ледзь не заплакаў. Яму было вельмі шкада рыбак. На выгане, у вялікіх лужынах хлапчукі яшчэ доўга лавілі шчупачкоў. Яны з задавальненнем расказвалі сябрам, колькі штук злавілі, колькі падсмажылі і з’елі. Але гэта было не тое, што гадаваць у садзе. Цікава толькі, адкуль яны з’явіліся. Няўжо іх прынесла навальніца? Да бліжэйшай рэчкі не менш, чым пяць кіламетраў. Атрымліваецца, што шчупачкі прыляцелі на гэтай цёмнай хмары, як павучок на павуціне. Няўжо такое магчыма?

## Дзе больш жулікаў?

Бабуля завязала грошы ў хусцінку і палажыла на дно сумкі. Зверху паклала хлеб, ліверную каўбасу. Потым перадумала, дастала хусцінку з грашыма і перадала бацьку.

– Пакладзі ў кішэню… А то ў сумцы яшчэ затрасуцца.

– Давай, – згадзіўся бацька, – толькі ж на возе будзем сядзець і нікуды не пойдзем больш, пакуль дахаты не заедзем. Ванік глядзеў на бацьку, на бабулю і ніяк не мог зразумець, чаму яны так грошы далёка кладуць, быццам хаваюць ад некага.

– А гэта, хлопчык, каб жулікі ў кішэню не залезлі. Ёсць такія людзі, якія працаваць не хочуць, а стараюцца

чужым дабром паласавацца. Прыглядаюцца на рынку ці ў магазіне, як людзі грошы ў кішэнь кладуць.

– Тата, а дзе больш жулікаў – у Маскве ці ў Баранавічах, – пацікавіўся Ванік.

Бацька адказаў не адразу. Ён пасмяяўся крыху з такога цікавага пытання ды павучальна сказаў:

– Запомні, сынок: чым большы горад, тым больш у ім жулікаў.

– Дык што ж гэта азначае?.. Атрымліваецца, што ў Маскве жулікаў больш. Тата, там жывуць людзі добра забяспечаныя, адукаваныя, далікатныя. Там жа ўсе вучоныя, артысты, міністры розныя, урад. Яны ж не будуць красці ці біцца, як п’яныя каля магазіна.

– Горад вялікі Баранавічы, але Мінск намнога большы, а Масква яшчэ большая. Там, дзе шмат людзей, там і жулікаў шмат, – паўтарыў бацька.

Яны выехалі з горада. Жвавы конік трухаў роўнаю ступою, разумеючы, што хутка прыедуць дамоў, будзе адпачынак.

Ванік верыў бацьку, але ніяк не мог уявіць, што такія паважаныя людзі са сталіцы – звычайныя жулікі. Як гэта яны будуць шастаць па рынку ды сунуць руку ў чужую кішэнь, каб выцягнуць кашалёк з грашыма?

## Карась

Ванька раніцой пагнаў авечак на выган. Хацелася спаць… Хлопчык старанна цёр вочы, адганяючы рэшткі сну. Падганяў авечак, размахваў кіем, хоць на гэта і не было патрэбы. Гурт быў невялікі, жывёлы паслухмяныя, і пасвіць даручалі звычайна дзецям. Травічка на выгане невысокая, але зялёная і сакавітая. Час ішоў марудна, не

так хутка, як хацелася. Авечкі старанна скублі і скублі зялёны дыван, не падымаючы галавы. Іх не цікавілі прыгожыя белыя аблокі, што плылі ў блакітным небе – галоўнае паесці як след. У поўдзень хлопчыка падмяніла цётка Люба. Гэта кароў гоняць дамоў у абед, каб падаіць, а авечкі ходзяць цэлы дзень, жуюць і жуюць траву. Паабедаўшы, пастушок вярнуўся на выган. Адпусціў цётку Любу дахаты і пагнаў гурт на Міладоўшчыну. Тут раздолле. Паша цягнецца да гарызонта, канца-краю не відаць, і пастухам менш турбот. А самае галоўнае, сярод такіх пастораў зялёнай травы ёсць цудоўныя мясціны: разбураная панская сядзіба, сажалка, выгнуты лукою лужок. Гарачае лета падсушыла яго даволі значна. Вады ў ім стала па калена, ды яшчэ столькі ж гразі. Хлапчукі любілі гэтыя мясціны. У той дзень скаламуцілі ваду так, што рыба пачала шукаць паратунку. Карасі, быццам п'яныя, хапалі паветра адкрытым ротам. Паверхня вады ператварылася ў цёмнае мутнае балота, на якім усюды відаць дзірачкі. Кожная дзірачка – гэта ўсё рыбка малая і вялікая. Хлапчукі рукамі выхоплівалі рыбу з вады і выкідалі на бераг. На беразе кожны падрыхтаваў ямку з вадой, куды пускалі злоўленых карасёў. Ванік не вытрымаў. Ён хуценька распрануўся і палез у ваду. Як і ўсе, старанна падводзіў рукі пад змучаную рыбу і выкідваў яе на бераг.

– А-а-а-а, – раздаўся над вадой дзікі крык. Усе рыбакі знянацку здрыгануліся і павярнулі ў той бок, дзе стаяў выпацканы да вушэй Лёнька Дарот. Ён трымаў высока над галавой вялізную рыбіну і крычаў. Што ён крычаў і чаму, нельга было зразумець. Карась раптам рэзка крутануўся, вылузнуўся з рук і плёхнуўся ў ваду.

– Г-г-г-гах! – Лёнька кінуўся ўслед за рыбай у ваду.

На шчасце рыбаку і на карасёва гора, вады было вельмі мала. Відаць была нават спіна гігантцкай рыбіны.

Лёнька ўпаў на ўцекача ўсім целам і, жыватом ды рукамі, змог яшчэ затрымаць карася. Ухапіўшы здабычу, ужо не стаяў слупком у вадзе, а выскачыў на бераг. Хлапчукі, усе як адзін, кінуліся за ім. Усе глядзелі на карася з захапленнем. Гэта быў дзед, ці прадзед усіх карасёў, а можа нават цар. Самыя ўважлівыя ў яго нават вусы разгледзелі. Нагледзеўшыся ўдосталь, зноў кінуліся ў ваду. Кожны марыў злавіць такога ж, як толькі што Лёнька. Зноў каламуцілі ваду і лавілі, лавілі… Але такога вялікага больш не было, не траплялася. Сонца ўжо заходзіла, канчаўся дзень, а хлапчукі ўсё плёхаліся ў вадзе. Ванік забыўся на авечак. Якія авечкі? Рыба! У вачах стаяў Лёнькаў карась. Яго бліскучая луска, вусы, вочы як вішні – зачароўвалі, запаланялі ўсе думкі. Ды раптам усё змянілася.

– Дзе авечкі?! – на беразе стаяў Ванікаў бацька.

Хлопчык зноў уздрыгнуў, другі раз за адзін дзень. Ён зразумеў, што рыбалка скончылася. У той жа момант успомніў пра авечак. Кінуў позіркам навокал – ні адной. Сонца ніжнім краем чапляе за гарызонт. Стала раптам холадна. Дрыжучы ад холаду, ці ад страху вылез на бераг і пачаў хуценька апранацца. Меншую рыбу пхаў у кішэні, а большую за пазуху. Бацька тым часам расшпільваў папругу. Хлопчык кінуўся бегчы. Ён ляцеў не чуючы пад сабою ног, а бацька на ровары імчаў за ім і цярабіў папругай па спіне і ніжэй. Малы рыбачок-пастушок бег па дарозе, размазваючы па твары слёзы. Рыба вылятала з кішэняў і з-за пазухі ды падала на сухую прапыленую дарогу. Пакуль прыбег дахаты, дык ніводнай рыбкі не засталося. Маці і бабуля заступіліся за Ваніка: авечкі былі ўсе дома, ні адна не прапала. Бацька яшчэ крычаў, сварыўся на заступнікаў, але ўжо не біў сына. Хлопчык паплакаў крыху, потым яшчэ з паўгадзіны шморгаў носам і толькі перад сном

супакоіўся. На другі дзень хлапчукі пацікавіліся ў Лёнькі?

– Ну як, падсмажыў карася?

– У-у-у, такі вялікі, што на патэльню не памясціўся.

– Вось гэта карась! Ну і смачны, мабыць? – думалі хлапчукі, глытаючы сліну.

– А мая рыбка недзе на дарозе пыльнай засталася, у пяску валяецца, – сумна падумаў Ванік.

**Снайпер**

Хлапчукі рабілі рагаткі. Да драўляных вілачак прывязвалі доўгія, вузкія палоскі гумы. Да другога канца гумак прымацоўвалі скураную лапінку для каменьчыкаў. Ванік бачыў, што ўсе сябры носяць у карманах рагаткі і рашыў не адставаць. Лічылася, што чырвоная гума самая лепшая, але знайсці яе ніяк не ўдавалася. Давялося рабіць са звычайнай, чорнай. Атрымалася даволі добра, хоць і не так шыкоўна. Хлопчык быў задаволены: цяпер у яго кішэні ляжала лёгкая зброя. Назбіраў поўную кішэню каменьчыкаў і страляў абы па чым. Трапляў больш у вялікія мішэні, слубкі ці дошчачкі ў плоце. Аднойчы нават збіў бляшаначку са слупка. Страляў і па вераб'ях, але ні разу не пацэліў. Вось і цяпер на вішню, каля самай вуліцы, села купка вясёлых гарэзлівых птушачак. Хлапчук пачаў падкрадвацца да вішні, каб лепей прыцэліцца.

– Пачакай, не лезь, дай мне! – закрычаў Коля Шул. – Дай сюды рагатку.

Ванік аддаў. Коля, як паляўнічы, крадучыся рушыў да вішні. Потым затаіўся і пачаў расцягваць рагатку. Ён так

ужо акуратна цэліўся, так ціха і асцярожна, што, мабыць, і не дыхаў у гэты момант. Потым стрэліў. Верабей падскочыў на галінцы, перакуліўся і ўпаў на зямлю, раскінуўшы крылы. Яго сябры паляцелі, а ён застаўся. Хлапчукі паднялі вераб'я. Усе хвалілі Колю за трапны стрэл. Ванік маўчаў. За дзве-тры хвіліны вельмі шмат розных думак пранеслася ў яго галаве. Спачатку, як усе, парадаваўся за Колю, за яго майстэрства. А ўжо праз момант абурыўся, а праз хвіліну ледзь не заплакаў. Маленькі вясёлы верабейчык, які лётаў і скакаў па галінках, які толькі што бесклапотна чырыкаў і радаваўся жыццю, цяпер ляжаў і не дыхаў. І гэта ўсё нарабіў Коля.

"Дай яму рагатку... Снайпер знайшоўся! І навошта я даў яму рагатку?" – перажываў хлопчык.

Ён не выкінуў рагатку, не зламаў яе, як хацеў зрабіць у той момант. Цяпер страляў па дошках у плоце, па бляшаначцы… І ніколі больш не страляў па вераб'ях.

## Святло дзяцінства

Мама хадзіла ў царкву вельмі рэдка. Бацька і бабуля – і то часцей. А часцей за ўсіх хадзіла маліцца цётка Люба. Яна не прапускала ніводнага вялікага свята. Ісці было даволі далёка, кіламетраў шэсць ці сем. Жанчыны, каб весялей было ў дарозе, загадзя дамаўляліся паміж сабой і невялікімі купкамі, пехатой дабіраліся да Падлесся, а там ужо і да царквы недалёка. Хадзілі палявымі дарогамі, дзе заўсёды былі пратаптаны сцяжынкі. Мама была набожнай жанчынай, дома кожны дзень малілася, а вось пайсці ў царкву неяк не атрымлівалася. Дзеці малыя, цэлы дзень трэба за імі глядзець. Але вось і ў яе з'явілася магчымасць на нейкі час пакінуць дамашнія клопаты.

– Машына калгасная заўтра пойдзе да царквы. Калі хочаш, дык можаш пад’ехаць, – паведаміў увечары бацька. – Назад, праўда, прыйдзецца пешшу, бо машына чакаць не будзе.

– А я хацела з Ванікам паехаць..

– Ну дык едзьце… Прыйдзе назад паціхеньку. Ён жа вялікі ўжо хлопчык.

Раніцой у хаце было шуму больш чым звычайна. Гаманілі ўсе, давалі парады, як лепш ісці дамоў пасля службы. Расказвалі Ваніку, як трэба сябе паводзіць у царкве, як правільна маліцца. Бацька і цётка Люба сёння заставаліся дома. Маці з сынам хуценька сабраліся, а тут і машына пад’ехала. На кузаве ўжо сядзелі цёткі ў святочных кофтах і яркіх хустках. Машына сабрала ўсіх жадаючых і весела мчыцца да царквы. Вялікае свята сёння – Сёмуха. Людзі, апранутыя па-святочнаму, ідуць з усіх бакоў… Квяцістымі ручайкамі цякуць, жадаючыя пакланіцца Госпаду, спяшаюцца ў Храм яго. Каля царквы стаяць вазы запрэжаныя… Ёсць людзі, што здалёк прыехалі.

– Здымі шапку, – сказала мама перад уваходам, – і перахрысціся.

Колькі тут людзей… Якія прыгожыя іконы, вялікія з пазалотай падсвечнікі! Чуваць пакорлівы, прыемны голас бацюшкі. Пеўчыя спяваюць святыя песні. Яркае святло, мноства гарачых свечак. Час бяжыць непрыкметна. Ужо і ногі забалелі ад доўгага стаяння, але наступіў момант, калі боль прайшоў, і больш маленькі паломнік не думаў пра гэта. Хваляванне ахапіла хлопчыка, калі спавядаўся бацюшку. Потым было святое прычасце. Служба яшчэ працягвалася, і мама знайшла на лаўцы месца, каб малы адпачыў крыху. Старыя бабулі з кіёчкамі сядзелі на лаўцы. Яны пасунуліся і далі месца хлопчыку побач. Служба заканчвалася, і людзі выходзілі на двор. Каля

воза дзеда Тамаша заўсёды было мнагалюдна. Дзед прадаваў прыгожыя, ярка размаляваныя “маскалі”. Тут былі птушкі і коні, зухаватыя коннікі, вясёлыя салдаты і пані. Выпечаныя і размаляваныя “маскалі” прыцягвалі да сябе пакупнікоў. Бабулі развязвалі платочкі з грашыма і куплялі падарункі сваім унукам. Мама ўбачыла, што сын не зводзіць вачэй з дзеда Тамаша і яго воза. Яна таксама купіла некалькі пернікаў, дала аднаго Ваніку.

– А астатнія занясём дамоў. Там жа нас другія чакаюць. Галі дадзім паненку ці птушачку, а астатнія на другі дзень пакінем. Ну, а цяпер пойдзем дамоў паціхеньку. Ногі твае не баляць?

– Не.

Яны пайшлі напрасткі, каб скараціць шлях.

– А як гэта вёска называецца?

– Падлессе, малое Падлессе. А недзе ёсць яшчэ і Вялікае Падлессе.

– А ты там была?

– Не, не была… Толькі чула. Там, кажуць, вельмі прыгожа пяюць.

Мама трымала Ваніка за руку. Яны ішлі ўжо па такой незнаёмай вёсцы. Царква стаіць на ўзгорку, і дарога ад яе непрыкметна і плаўна перайшла ў вясковую вуліцу. Спачатку яны спускаліся ўніз, а потым зноў давялося ўзнімацца ўгору.

– Тут не тое што ў нас: вуліца роўная, як стол, – думаў хлопчык.

Сонца стаяла высока. Людзі павыходзілі са сваіх дамоў і сядзелі на лаўках. Усе па-святочнаму апрануты. Яркія хусцінкі і кофты маладых жанчын перамешваліся з больш строгім адзеннем бабуль.

– Шура, ідзі, пасядзіце з намі. Адпачніце крыху.

Адна з жанчын, што сядзелі на лаўцы, гасцінна запрашала іх да сябе.

– Вы ж нашы сваякі. Ты можа нас і не ведаеш? Мы ж табе свае па мужу. Можа, у хату зойдзем?

– Не, дзякуй, мы тут крыху на лавачцы пасядзім. Сёння так цёпла.

– Гэдак хораша, надвор’е як на заказ. А гэта твой сынок?

– Мой.

– А як жа цябе завуць? Ну, не саромейся, скажы…

– Ваня.

– Ой! Ну гэтак жа, як бацьку. Харошы хлопчык… Можа вы піць хочаце? У нас квас ёсць.

– Не, нам вадзічкі лепш халоднай.

Цётка пайшла ў хату. Праз некалькі хвілін яна вынесла кубак вады… А яшчэ вялікі кусок пірага і жменю цукерак.

– Вось табе, хлопчык, гасцінец…

– Дзякуй, – Ванік пачырванеў.

– Бяры, не саромейся, – угаворвала цётка.

Яна аддала пірог маці, а цукеркі палажыла на калені хлопчыку.

– А як жа Ваня там твой? Ён жа ў калгасе, мусіць, самога старшыню замяшчае?

– Добра, так усё. Вось толькі з людзьмі не вельмі проста, а ладзіць трэба…

– Канешне, усім не дагодзіш. А вы ў царкве былі?

– Былі, і да споведзі хадзілі.

– От малайцы.

Мама з Ванікам пасядзелі крыху, пагаварылі з гасціннай цёткай і рушылі ў дарогу. За вёскай пачыналася поле. З аднаго боку дарогі сцяной стаяла жыта. Яшчэ зялёнае, але ўжо высокае і густое, як шчотка. З другога боку цвіла канюшына. Пчолкі рупліва збіралі мёд з яркіх чырвоных кветачак. Было ціха-ціха. Ветрык толькі злёгку калыхаў, люляў зярняткі ў жытнёвых

каласах, як клапатлівая матуля дзяцей у калысцы. Было цёпла, але не спякотна. Сонейка залатым святлом залівала ўсю зямлю, усё наваколле. Паветра напоўнена цяплом і ласкай. Птушкі навокал пяюць свае песні. Вялікае свята сёння ў хрысціян – Сёмуха. Вялікае свята сёння ў прыродзе. Усё цвіце, усё пяе, усё навокал радуецца жыццю. Сярод гэтай прыгажосці, дабра, святла і любові ідуць маці з сынам. Яны былі ў царкве… У Божым Храме маліліся Госпаду… Дакрануліся да вялікай Таямніцы жыцця. Цяпер павольна ідуць дахаты па гэтай блаславеннай зямлі. Дапамажы ім, Госпадзе, не збіцца з дарогі.

**Бібліятэка**

Настаўніца трэцяга класа Зінаіда Андрэеўна на апошнім уроку сказала вучням, што яны могуць запісацца ў школьную бібліятэку і атрымаць любую кнігу для чытання.

– Пажадана, каб вы ўсе запісаліся. У нас ёсць шмат цікавых кніг. Ідзіце сягоння пасля ўрокаў і запішыцеся.

Ванік не мог дачакацца канца ўрока. Хвіліны цягнуліся вельмі доўга. Нарэшце зазвінеў доўгачаканы званок. Як толькі Зінаіда Андрэеўна аб'явіла ўрок закончаным, хлопчык кінуўся ў бібліятэку. Яму здавалася, што ўсе яго аднакласнікі пойдуць запісвацца і разбяруць лепшыя кнігі. Са здзіўленнем заўважыў, што ніхто не спяшаецца так, як ён. У невялікім пакоі, сярод кніг, раскладзеных на палічках, стаяў стол. За сталом сядзела настаўніца старшых класаў, якая ў вольны ад урокаў час працавала бібліятэкарам. Дзве дзяўчынкі ціхенька арталі кнігі, мабыць, выбіралі, шукалі

патрэбнае. У бібліятэцы было вельмі ціха, не тое што на калідоры. Ванік нават збянтэжыўся  ад такой цішыні. Ён стаяў каля дзвярэй і маўчаў.

– Што ты хочаш, хлопчык? – ветліва спытала бібліятэкарша.

– Зінаіда Андрэеўна сказала, каб мы запісаліся ў бібліятэку.

– Добра. А якую ты хочаш узяць кнігу?

– Я… я… я  не ведаю.

– Ну добра. Спачатку я цябе запішу на картку. А потым дам табе добрую кнігу. Гавары сваё прозвішча, імя і клас, у якім ты вучышся.

Бібліятэкарша запісала ўсё на картку. Потым пайшла некуды за стэлажы. Хутка вярнулася з тоненькай кніжачкай у руках.

– Вось гэтую кніжку я табе запішу. Цікавая кніжка – “Дзед Мазай і зайцы”. Ты ведаеш, як абыходзіцца з кнігамі? Толькі на чысты стол класці можна. Не рваць і не камячыць лісты. Трэба любіць кнігу і берагчы, як вялікую каштоўнасць. Запомніў?

Ванік згодна  кіўнуў галавой. Ён распісаўся за кнігу і паклаў яе ў партфель. Яшчэ раз паглядзеў на палічкі з кнігамі: “Колькі іх тут ляжыць, і тоўстых,  і тонкіх.” Сказаў ціхенька “Дзякуй, да пабачэння,” –  і выйшаў на калідор. Яго  аднакласнікі ўжо пайшлі дахаты. Толькі старэйшыя вучні яшчэ заставаліся ў школе. Ванік і не заўважыў, як апрануўся і выйшаў на вуліцу. Цяпер усе яго думкі былі пра бібліятэку. “А колькі  ж там розных цікавых кніг. Усе іх можна атрымаць і прачытаць. І цяпер ён зможа ўзяць, якую захоча. Прачытае адну – возьме другую, прачытае другую – возьме трэцюю. О-о-о-у-у. Ажно самому не верылася. Столькі цікавага… Такое багацце… Гэта ж скарбы, да якіх ён цяпер мае доступ.”

Дома хлопчык паказаў кніжку бабулі і дзеду. Пахваліўся, што запісаўся ў бібліятэку, і адразу ж сеў чытаць.

– Дык ты хоць паеш спачатку, – сказала з усмешкай бабуля, – потым урокі зрабі, а ўжо пасля гэтага чытай сваю кнігу.

– Ты што, бабуля? Сказалі доўга не затрымліваць і не выпэцкваць.

– Нічога з ёй не здарыцца. Яна такая тоненькая, паспееш яшчэ прачытаць.

Хлопчык неахвотна згадзіўся. Хуценька паабедаў, зрабіў урокі і ўвесь час думаў пра тоненькую кніжачку з бібліятэкі. І як толькі надарыўся вольны час, нават не пайшоў на вуліцу, а ўзяўся чытаць. Ужо праз паўгадзіны даведаўся, як дзед Мазай выратаваў зайцоў у час паводкі. На другі дзень Ванік зноў прыйшоў ў бібліятэку.

– Што, кніжка не спадабалася? – спытала настаўніца.

– Спадабалася, вельмі… Але я ужо прачытаў.

– Ужо прачытаў? Вось малайчына. Ну, тады я табе дам другую, таксама цікавую.

Другая кніжка была пра хлопчыка Ціму, які выратаваў сабачку. Хлопчыку падабалася хадзіць у бібліятэку. Тут ён адкрыў для сябе скарбніцу ведаў. Любоў і цікавасць да ведаў пачалася з першай, тоненькай, як вучнёўскі сшытак, кніжачкі “Дзед Мазай і зайцы”.

## Касцяное яйка

Першы дзень Вялікадня. Хоць вясна запазнілася і на вуліцы ў гэты святочны дзень яшчэ ляжаў снег, але было даволі цёпла, свяціла сонейка. Са стрэх закапала, пачаў

раставаць снег. Падлеткі з яйкамі ў кішэнях пацягнуліся да хаты старога Ёселя, дзе звычайна кожны год б’юцца ў біткі. Кожны хоча стаць пераможцам, асабліва ў такім узросце. У карманах хлопцаў цэлыя яечкі і першыя біткі. Жадаючых пабіцца шмат, але ніхто не збіраецца прайграваць.

– Трымай, – крычаць смялейшыя, хто ўжо выбіў пару бітак і адчуў радасць перамогі. Прайграўшыя раз і два мнуцца нясмела, адыходзяць убок.

– Трымай… Ну добра, бі, я буду трымаць, – не адстаюць фаварыты. – І біцца не хочаш? Ты што, у яйку радзіўся? Ты што, так яйка баішся прабіць? Так яго шкадуеш?

Такой абразы прайграўшы вытрымаць не можа. Ён адважваецца на паядынак, дастае яйка, б’е і зноў прайграе.

– Ну вось, я ж казаў, – з горыччу вымаўляе хлопец і адыходзіць убок. Ён марыць знайсці праціўніка з яшчэ слабейшымі яйкамі, каб перамагчы хоць каго-небудзь.

А пераможца ходзіць задаволены – яшчэ адна бітка ёсць. Дома яек шмат, куры кожны дзень нясуцца, але біткі – гэта зусім іншае. Гэта эмоцыі, хваляванне і асалода, трыумф пераможцы.

– Адным яйкам дзесятак выбіў, – хваляцца тыя, каму шанцуе. Што ж, і такое здараецца: адно моцнае яйка б’е дзесятак слабейшых.

– Вось некалі былі баталіі, – успамінаюць самыя старыя. Каля царквы сыходзіліся хлопцы з некалькіх вёсак. Галоўнае было не тое, каб больш бітак выбіць. Цяпер шукаюць слабейшага праціўніка, каб бітку атрымаць. А некалі былі такія зухі, якія стараліся моцнага перамагчы. За моцнае яйка плацілі вялікія грошы. Яйка на Вялікдзень даражэй за курыцу каштавала. Ды што там курыца! Як убачаць, што яйка б’е

ўсіх, дык шукаюць яшчэ лепшага мацака. Сваіх няма моцных, дык у другіх купляюць. І ўсё дзеля перамогі, каб сваё даказаць… І смаловыя рабілі… Але за смаловае можна было і па лбе атрымаць. Б'юцца хлопцы і ніяк не могуць яйка пабіць. Спрачаюцца, ідуць у заклад, даюць грошы і разбіваюць, калі трэба, мацака аб сцяну. Прайграўшы плоціць грошы, за якія можна пяць дзесяткаў яек купіць. Даходзіла і да мардабою, калі раскрывалася ашуканства. А цяпер? Што гэта за біткі? Вось памятаю як сёння, а было гэта яшчэ пры паляках…

Хлапчукі слухаюць затаіўшы дыханне. Ім і сёння цікава, а вось дзяды кажуць, што некалі было такое відовішча, такая барацьба, што цяперашнія бойкі ў біткі – толькі слабы адбітак колішняга. Так бы хацелася паглядзець на тое, што расказваюць старыя дзяды. А цяпер больш хваляцца. Часта дадаюць розныя прыдумкі, як тыя рыбакі. У гэты час ніхто не заўважыў, як да гурта падышоў Саня. Ён ніколі раней не біўся ў біткі, а сёння трымаў яечка ў кішэні. Усе раптам захацелі з ім пабіцца, адчувалі яго нявопытнасць, думалі, што ён наогул не ўмее зубаваць. Сын дырэктара школы, які не прызнае свят… Бабулі і дзеда ў яго няма, хто яму выбера мацака? Ніхто. Але пасля першай сутычкі крыху прыціхлі, ужо не лезлі навыперадкі. Саня выбіў бітку, потым другую, трэцюю. Ён сам біў і згаджаўся трымаць. І заўсёды чужое яйка трашчала, а яго заставалася цэлым.

– Можа, смаловае, – зашапталіся хлапчукі.

– Дай я пагляджу тваё яечка,- папрасіў стары Ёсель.

– Не давай, Саня… Не давай дзеду, а то ён патрымае ў руках і ўсё даведаецца… як пазубуе.

Але Саня даў яечка дзеду. Той патрымаў яйка у руках, правёў вялікім шурпатым пальцам па носіку. Усе з цікавасцю назіралі за дзедам. Чакалі, што ён скажа.

– Добрае яечка… І не смаловае. Можа, памяняем, Саня?

– Не, дзядуля, я не буду мяняцца.

– Ну, як хочаш, – стары Ёсель зноў акунуўся ў салодкую дрымоту. Пад цёплым вясновым сонейкам было прыемна сядзець на лавачцы, каля моладзі.

А хлапчукі ўжо не зводзілі з Сані вачэй. Ніхто з ім ужо не хацеў біцца, усе баяліся. Толькі новыя ўдзельнікі налягалі на Санева яйка. Поўныя кішэні бітак ужо ў хлопчыка, а яечка ўсё яшчэ цэлае. Колькі радасці яно прынесла гаспадару! Віця-Ліса задумаў нядобрае. Ён шаптаўся са старэйшымі хлапчукамі. Толькі з іх размовы да меншых даляцелі нейкія абрыўкі: “Я паб’ю яйка гэтае… Даведаемся ці смаловае…” Саня нічога гэтага не чуў. Ён быў шчаслівы… Нічога дрэннага не западозрыў, калі Ліса падышоў і прапанаваў.

– Ну давай біцца.

– Давай, толькі яйка пакажы.

– Вось глядзі.

– Трымай.

– Ты трымай, тваё ж моцнае.

Саня смела трымае яйка. Ён жа выбіў ім ужо больш дзесятак бітак. Ліса трымаў яйка ў левай руцэ, а з правай кішэні выхапіў костку, мабыць, са свінога мяса, што елі на Вялікдзень, і жахнуў па яечку.

Удар быў моцны. Вострая костка прабіла яечка навылёт. Хвіліну назад цэлае, моцнае, як каменьчык, яечка, патрушчанае на кускі, вывалілася ў Сані з рук. Ліса ў момант сунуў костку ў пусты карман. Саня глядзеў шырока раскрытымі вачыма:

– Чым ты стукнуў??

– Во, глядзі, – Ліса з другой кішэні дастаў яйка.

– Гэта не тое! – крычаў Саня, – У другой кішэні! Пакажы другую кішэню! Гэта была нейкая костка.

– Ты што?! Якая костка?! Думаеш, калі ты сын дырэктара, дык можаш на мяне паклёпы наводзіць? Я не пагляджу… Яшчэ можаш кухталёў атрымаць.

Саня ўжо не крычаў больш, але ніяк не мог супакоіцца. Хлапчукі з цікавасцю глядзелі на разбітае яйка, якое пасля несумленнай бойкі валялася на мокрым снезе. Нагнуліся, нават прыселі на кукішкі і старанна вывучалі ўсё, што засталося ад мацака.

– Не, не відаць смалы.

– Гэта ж такое яйка моцнае…

А Саня, зусім нядаўна яшчэ такі шчаслівы, стаяў як пабіты. Адзін раз прыйшоў на свята павесяліцца з хлопцамі, ды яшчэ такое яйка ўдалае трапіла яму ў кішэню. А гэты Ліса так напаскудзіў. І не стукнеш такога дзецюка, на тры гады старэйшы. Саня паціхеньку ішоў дахаты. Па шчаках яго каціліся слёзы. А Ліса ў гэты момант скаліў зубы. Ён быў вельмі задаволены, што “правучыў” дырэктарскага сынка. Ён лічыў сябе героем. Праўда, не ўсе так лічылі. Ніхто нават не смяяўся. Але свята працягвалася, усе хутка забыліся на гэтае “касцяное яйка”, ды і Ліса збег некуды. Вялікдзень такое свята, у ім столькі цікавага, што няма часу сумаваць. А зверху Сонейка глядзіць на ўсіх, прыгравае і ўсіх радуе.

## Рыба над вадой

Вуда без кручка стаяла ў сенцах. З такой вудай у рыбу ісці няма сэнсу. Просіць Валік бацьку, просіць бабулю, да слёз даходзіць… А просьба заўсёда адна: “Купіце, калі ласка, кручкі”.

Паехалі бацька з бабуляй у Баранавічы прадаваць вішні. Пад вечар вярнуліся, задаволеныя паездкай і з

вялікай колькасцю пакупак. Накуплялі батонаў з разынкамі, каўбасы, купілі квяцістыя шпалеры і шмат розных дробязей. Але самае галоўнае, на радасць Валіку, – празрысты пакецік з маленькімі рыбацкімі кручкамі. Цэлых дзесяць штук… Новенькія рыбацкія кручкі.

– І колькі ж яны каштуюць? – пацікавілася маці.

– А нядорага… капейкі нейкія там… Дзешавей, чым палавіна батона.

Дарослыя толькі ўсміхаліся з бясконца шчаслівага хлопчыка. Вядома, для дарослых кручкі непатрэбная рэч, ды і грошы невялікія, але для пачынаючага рыбака гэта непараўнальная каштоўнасць. Кручок для рыбака бясцэнны. На другі ж дзень Валік накапаў ружовых чарвячкоў і рушыў, не верачы яшчэ свайму шчасцю, да бліжэйшай сажалкі. Сажалка была побач з вёскай. Дзесяць хвілін прайшло, і маленькі рыбак убачыў сярод прыгожых дрэў невялікае рукатворнае азярцо і знаёмых хлапчукоў з вудамі. Усе сядзелі моўчкі і, як заваражаныя, не зводзілі вачэй з паплаўкоў. Вялікія прыгожыя дрэвы схіляліся над вадой. Паверхня сажалкі чыстая, спакойная. Вербы і ліпы адбіваюцца на ёй, як у люстэрку. Месца тут прыгожае, маляўнічае, але глядзець няма калі. Віця толькі што злавіў рыбку на сваю валасяную вуду. З конскага хваста ён выразаў пасму і ў тры валасінкі сплёў “жылку”. Вуда атрымалася вельмі арыгінальная. Валік як толькі убачыў, што Віця злавіў карасіка, ды яшчэ на валасяную “жылку”, пачаў хуценька разматваць сваю шаўковую вудачку. Выбраў чырвоненькага чарвячка і надзеў на новенькі кручок. Закінуў далей ад берага і пачаў чакаць. Чакаў даволі доўга. У другіх клюе, а ў яго паплавок зусім не рухаецца. Нейкая вандроўная страказа прысела на паплавок адпачыць. Расселася, як у сябе дома і гойдаецца на вінным корку. Пасядзела крыху, адпачыла і паляцела далей. Падзмуў ветрык, лёгкія хвалі пабеглі па

вадзе. Зноў паплавок крыху загойдаўся, але гэта ўсё не тое. Валік выняў вуду з вады, паглядзеў – чарвяк на месцы, і зусім не паклёваны. Зноў закінуў. Нарэшце паплавок заварушыўся. Навокал кругамі пабеглі маленькія хвалі. Сэрца рыбака моцна застукала, здавалася, выскачыць з грудзей. Паплавок заскакаў, акунуўся і пабег па вадзе, некуды ўбок, убок. Валік рвануў дрыжачымі рукамі вудзільна ўверх. Яно рэзка ўзляцела над вадой і зачапілася за галлё купчастай старой ліпы, што нізка навісла над сажалкай. А на кручку вісела рыба, вялікі жоўта-белы карась. Хваляванне ахапіла рыбачка, ды што там хваляванне – шторм у дзесяць балаў. Валік паспрабаваў вызваліць вудзільна, усё тузаў, тузаў, але не змог вырваць з галля. Карась на кручку ўсё яшчэ вісеў у паветры. Вялікі, прыгожы як на выстаўцы. Хлопчык разгубіўся, ён не ведаў, што рабіць. Яшчэ патузаў за вудзільна… “Не, так не разблытаеш… Трэба лезці ў ваду…” Ён пачаў хуценька распранацца, каб па вадзе дабрацца да рыбы і зняць яе з кручка. А карась сабраў усе сілы, затрапятаўся, як цыркач, і плюхнуўся ў ваду, толькі кругі пайшлі. Быццам і не было нічога на кручку. Валік толькі паспеў скінуць адзенне. “Э-э-эх, такая няўдача. Можа, трэба было не тузаць вуду, а адразу лезці ў ваду? Ну, што ж зробіш? Першая рыбка, ды такая вялікая. Крыўдна, але нічога ўжо не зробіш”. Хлопчык апрануўся, зноў закінуў вуду. Ён сядзеў доўга, сумна, з надзеяй глядзеў на паплавок, а рыба бокам абыходзіла яго кручок. Мяняў чарвячкоў. Выбіраў лепшых, а рыба не клявала. “Мабыць, карась, што пабыў на кручку, ужо расказаў іншым, каб не чапалі чарвячка”. Віцька скруціў валасяную вуду, забраў дзве свае маленькія рыбкі. Іншыя рыбакі таксама збіралі вуды ды разыходзіліся. Сонца стаяла высока, рыбалка закончылася. Валік пасядзеў крыху і апошнім пакінуў сажалку. Рыбы не было. “Але

які вялікі карась сарваўся, шмат большы за Віцевых двух. Эх, каб жа не галлё!”

**Шабля**

Сапраўдная шабля, баявая шабля – не ў кіно, не ў сне, а ў руках Генадзіка. З прыгожай чорнай ручкай, крыху пацямнелая ад часу, з тонкай гравіроўкай, яна з’явілася перад вачыма, як відовішча са старадаўняй казкі. Па ўсіх прыкметах гэтая зброя выкавана гадоў дзвесце ці трыста таму і належала багатаму чалавеку. Шырокая, як меч, загнутая крыху, даволі цяжкая для дзіцячай рукі. Незвычайная рэч, якая прайшла праз вякі. Як яна апынулася тут, у паўцёмным старым гумне? Валік глядзеў на шаблю шырока расплюшчанымі вачыма, затаіўшы дыханне. – “О-о-о-го – сапраўдная баявая шабля”.

– Дай патрымаць… – папрасіў ён.

– Ты што? Патрымаць! – абурыўся Генадзік.

Валік уздыхнуў: “Ну канешне, хто ж табе дасць патрымаць такую шаблю?”

– А дзе ты яе знайшоў? – ён асцярожна адным пальцам дакрануўся да шаблі.

– Ды вось у гэтым гумне. Аднойчы лазіў па застрэшшы і знайшоў.

– А бацька ведае пра яе?

– Можа, і ведае. Ідзі ўжо на двор, хопіць глядзець. Ідзі, я схаваю шаблю.

Генадзік пачакаў, пакуль сябар выйдзе з гумна, схаваў шаблю, і хлапчукі пайшлі на вуліцу. Валік не сердаваў на сябра. “Вельмі ж ужо каштоўная рэч… Такая знаходка. Вось пашанцавала сябру. Ну, вядома ж, трэба яе добра берагчы, каб не ўкралі. Такая шабля, такая шабля”.

З гэтага моманту хлопчык не думаў больш ні аб чым. Куды б ён ні ішоў, што б ён ні рабіў, заўсёды думаў пра яе крыху выгнутае лязо, пра чорную ручку і тонкую гравіроўку. Вырашыў, што купіць у Генадзіка шаблю. Прасіў грошы ў бабулі і ў бацькі, але не гаварыў, не прызнаваўся, што хацеў купіць. На кіно пяць капеек не траціў, а бег да бабулі па дзяружку, каб завесіць акно ў школе. Кінамеханікі за дзяружку пускалі ў кіно бясплатна. Прайшло паўгода. Валік не еў цукерак, не хадзіў у кіно, калі хто апераджаў яго з дзяружкай, эканоміў на чым толькі можна. У яго сабралася куча грошай, ажно два з паловай рублі. Можа, гэта і мала за шаблю, але чакаць больш ужо не хапала цярпення. Хлопчык рашуча накіраваўся да Генадзіка. Ён папросіць сябра прадаць шаблю, за ўсе грошы. Калі ж той захоча больш, то Валік будзе яшчэ збіраць, каб заплаціць, колькі трэба. Валік не бачыў шаблю паўгода, а мо і больш. Сэрца калацілася, у горле перасохла, пакуль ішоў да Генадзіка. А ісці ўсяго было нейкіх пяць хвілін.

– Генадзік, прадай мне тую шаблю.

– Якую шаблю? А-а-а тую… Дык я яе памяняў на кінжал. Мы з Валерам Баранаўскім памяняліся.

– На які кінжал? – Валік увесь напружыўся.

– А вось на гэты. Генадзік дастаў са скрынкі з цацкамі лялечны кінжал ды падаў сябру.

Гэта была дзіцячая цацка, лялечны кінжал з алюмініевым лязом. Яно гнулася ў руках… Валік хацеў нешта сказаць, але не мог. Глядзеў на Генадзіка і не бачыў яго.

– Навошта ты памяняўся? Ён жа лялечны, алюмініевы!

– Ну і што? Не твая справа. Генадзік кінуў “кінжал” у скрынку. Валік больш не мог і не хацеў гаварыць. Ён панура паплёўся дахаты. “Ну як гэта можна, памяняць такую шаблю на дзіцячую цацку? І чаму ён не папрасіў

крыху раней прадаць шаблю? У-у-у, гэты хітры гарадскі праныра Валерык. У яго ўжо не купіш шаблю, ды яшчэ за два с паловай рублі, не забярэш назад, не выменяеш. Хлопчыку было крыўдна, хацелася нават выкінуць грошы, якія так доўга збіраў. Ён не хадзіў да Генадзіка цэлы тыдзень, а можа і два. Ніяк не мог пагадзіцца з тым, што сябар не даў яму нават патрымаць шаблю, а сам выменяў на алюмініевую цацку. Потым неяк памірыліся – усё ж такі сябры.

**Малады снег**

Мы спотыкаясь шли по полю.
Холодный ветер сеял снег.

За ноч выпаў свежы малады снег. Ён закрыў усе дарогі, замёў усе сцяжынкі і слядоў не пакінуў, а ўсё сыпаў ды сыпаў зверху. Маладзенькая дзяўчына і такі ж хлапец першымі пракладвалі дарогу па гэтай снежнай цаліне. За вёскаю, як толькі мінулі апошнюю хату, стала зразумела, што вецер у полі даволі моцны. Тугое паветра біла ў твар дробнымі калючымі сняжынкамі. Холад прабіраўся да цела праз няшчыльную вопратку. Падарожнікі хуталіся, закрываліся як маглі ад ветру і холаду. Такое надвор’е сёння нялётнае!

“А як ёй у гэтым тонкім паліто? Мабыць, холадна”, – думаў Васіль пра сваю спадарожніцу Зіну.

Яны вучыліся разам у адным 9 ”В” класе. Цяпер вось ішлі на заняткі. Яшчэ вельмі рана, у хатах толькі запальваюцца агні. Па дарозе яшчэ ніхто не хадзіў з учарашняга дня. Да асфальтавай дарогі прыблізна тры кіламетры. Летам за паўгадзіны можна лёгка дабрацца да

аўтобуснага прыпынку. А зімой, у такое надвор’е,ісці не так проста. Ногі правальваюцца ў снег, распаўзаюцца ў розныя бакі, не знаходзячы сапраўднай цвёрдай апоры. Яны рухаліся наперад крыху бокам, каб вецер не дзьмуў проста ў твар. Спадарожнікі перамяшчаліся ў белай снежнай крышыве, як у тумане. Добра што ад вёскі да вёскі недалёка, а то і заблудзіцца можна. Дарога ўцякала з-пад ног. Толькі выйдуць на цвёрдае месца – і зноў збіваюцца на цалік. А холад лезе і лезе ў твар, у рукавіцы, пад паліто.

“Ці цёпла яна адзета? – зноў падумаў хлапец пра Зіну. – Цікава, колькі на ёй адзення? Вось на ўроку фізкультуры, у зале, бегалі толькі ў трусах ды майках. Якая яна прыгожая! Апранецца, дык нічога такога ў ёй няма, а разпранецца... – вачэй не адвесці. Толькі б на яе і глядзеў. Дык яна ж, мабыць, у зале, на фізкультуры самая прыгожая была. Ногі такія стройныя, і грудзі з-пад маечкі выбіваюцца, прывабна так вытыркаюць. Хоць невялікія, але, мабыць, тугія, як каменьчыкі. Вось бы хоць разок за гэтыя грудзі ўзяць рукой. Каб усёй далонню і ўсімі пальцамі, ды за голыя грудзі. Хоць бы разочак”. Хлопец толькі так падумаў. Што ж тут такога? Але думкі былі такія яскравыя, што ён усё гэта як бы бачыў перад сабой. Быццам ідуць яны не па полі, а зноў у зале, і побач нікога няма. Стала нават горача.

Яны ідуць удваіх, і нікога больш. “Вось бы яе абняць. Ну і што ж такога, што адзення шмат? Пры чым тут паліто? Вось бы абняць! А што я ёй скажу? А як напалохаю? А калі потым бацькам раскажа? Што тут расказваць? Я ж толькі абдыму… Ну хоць разочак... Яе грудзі, стан, ножкі… О-о-о, ну што тут рабіць?”

Страх і жаданне змагаліся паміж сабою. Было тое змаганне цяжкім. То ў холад кідала, то ў гарачыню. Цела слабела, галава кружылася. Не было відаць ужо ніякай

дарогі, і хаты бліжэйшай вёскі недзе зніклі. Снег і вецер ён ужо не заўважаў. Хлапец бачыў толькі Зінку перад сабой. З вялікай цяжкасцю ён, губляючы шмат сілы, пераадольваючы нейкія нябачныя перашкоды, як бы гіры на руках павіслі, ужо потнай рукой крануў дзявочае плячо.

– Што?! Што ты? – спытала яна, павярнуўшы галаву. У вачах нейкі страх і пытанне, як агеньчыкі блiснулі. Васіль маўчаў. Ён паправіў, падцягнуў рукавіцы, але цяплей не стала. Наадварот, неяк раптам усё змянілася, стала холадна. Зноў завыў вецер, здавалася, яшчэ мацней... У твар упіваліся вострыя сняжынкі. Ногі распаўзаліся, коўзаліся па свежым маладым снезе. Яны маўчалі… Так і зайшлі моўчкі да самага прыпынку. Пасвятлела крыху. Васілю было сорамна… Не толькі перад Зінай. Сорамна перад сабой. І не ведаў, за што.

## Жэ-мінь-жі-бао
## (цэнтральная газэта Кітая)

Прыгарадны вакзал у Брэсце. Выхадны дзень, субота. Як кажуць, яблыку няма куды ўпасці. Па білеты чарга кіламетровая. Ваня прыбег крыху пазнавата. Хутка поезд адпраўляецца на Баранавічы: можна паспець, а можна і спазніцца.

“Што ж рабіць? – думае хлапец. – Станавіцца у чаргу ці прасіць, каб пусцілі без чаргі? Неяк несумленна лезці без чаргі, калі другія стаяць. А, пастаю, мабыць, паспею: касіры працуюць хутка, і пасажыры стаяць з грашыма ў руках”.

Ён стаяў у чарзе як на іголках. То на гадзіннік глядзеў, то на пасажыраў, каб хутчэй бралі білеты. Усё ідзе хутка,

і ён паспявае на свой поезд. Ужо аб’явілі пасадку, але вось ужо акенца, усяго толькі два ці тры чалавекі перад ім стаяць. Грошы ўжо даўно гатовы, без рэшты, у руцэ ажно прапацелі. Паспеем…

– Вам куды? – пытае касірша чарговага пасажыра. Малады мужчына зрабіў ёй нізкі паклон, ці то рэверанс, і кажа:

– Жэ-мінь-жі-бао.

– Куды, куды? – не разумее касірша.

– Жэ-мінь-жі-бао, – зноў з паклонам, ветліва і спакойна вымаўляе мужчына.

– Грамадзянін, не затрымлівайце чаргі. Скажыце ясна, куды вам трэба, – успыхнула касірша.

– Боже мой! Неужелі не ясно, что Жабінка, – здзівіўся ветлівы пасажыр.

– Так бы і сказалі, – буркнула жанчына. Яна за доўгія гады працы на вакзале шмат чаго бачыла, але гэты пасажыр яе сёння здзівіў.

Каля Ваня дачакаўся сваёй чаргі і атрымаў нарэшце білет, можна было не спяшацца. На поезд ён не паспеў. Выбег ўсё ж такі на перон. Электрычка паціхеньку набірала ход. Вось табе і жэміньжібао.

**Крым**

Класная гадзіна у 10 “В”. Такога яшчэ не было. Шумелі ўсе, крычалі нават самыя маўклівыя. І што цікава, усе былі незадаволеныя. Тэма вельмі ж незвычайная. Настаўніца як толькі прыйшла, заявіла: “На камсамольска-піянерскі злёт у Крым едуць вучні нашай школы. Паедуць самыя вартыя і актыўныя. З вашага класа заўсёды ва ўсіх мерапрыемствах удзельнічае адзін і

той жа вучань – Жалкевіч. А цяпер я прапаную Алесю Жрамко. Яна дастойная дзяўчынка. Няхай едзе, пабачыць хоць Чорнае мора і Крым. Так і запішам, ад 10”В” класа на камсамольска-піянерскі злёт едзе Алеся Жрамко.

Стала вельмі ціха ў класе. Кожны думаў над тым, што толькі што пачуў. Паездка ў Крым – край цікавы і загадкавы. Высокія горы і цёплае Чорнае мора. Бязвоблачнае неба, гарачы пясок і прахалода вады. І цяпер вось так, без грошай, можна туды паехаць. Аб гэтым можна было толькі марыць. Вось дык пашанцавала Алесі! Такое шчасце усміхнулася дзяўчынцы. А яна сядзела і ўся свяцілася ад радасці. Няўжо і праўда ёй такое шчасце выпала? Сама класная прапанавала.

– А чаму гэта Алеся паедзе? – устаў Лойка з-за стала. – А можа мы не згодны? Чым яна лепшая? Мы самі прапануем дэлегата. Вось Іван хай едзе… Мы за яго прагаласуем.

Яшчэ так ніколі не шумелі на класным сходзе. Адразу гаварылі некалькі чалавек, толькі кандыдаты маўчалі. Нарэшце настаўніцы ўдалося перакрычаць усіх, і зноў яна узяла слова.

– Няхай едзе… Я не супраць… Паедзеш, Іван?

Цікавае пытанне. Іван устаў з-за стала. На яго глядзелі трыццаць пар вачэй. Усе сціхлі, чакалі, што ён скажа.

– Не, я не паеду… Няхай Алеся едзе… – Іван сказаў і як бы нейкі цяжкі груз з плячэй скінуў. Сказаў і адразу сеў.

Зноў загаманілі ўсе. Цяпер сумненняў не было, хто паедзе. Хоць і былі незадаволеныя, але адкрыта выступаць ніхто не адважыўся. А пасля ўрокаў Лойка падышоў да Івана.

– Ты што гэта, цёзка, мяне падводзіш? Дарэмна ты адмовіўся. Чым жа яна лепшая? А я толькі выступаў, стараўся за цябе.

Відаць было, што Лойка незадаволены вынікамі сходу, а яшчэ больш тым, што Іван адмовіўся ад такой прывабнай прапановы. Іван вінавата апусціў галаву. Што тут казаць?

– Хай едзе, – буркнуў ціха і пайшоў, каб больш не гаварыць на гэтую тэму.

Сам жа падумаў, што ёсць шмат прычын, якія не так проста растлумачыць і тым больш зразумець. Там жа, у Крыме горы, а ён баіцца вышыні. Ды і які ён камсамолец? Зусім не актыўны. Але самае галоўнае – перайсці дарогу Алесі ён не мог. Нават калі б замест яе быў хтосьці другі, і то наўрад ці… А ехаць замест яе… Ні за што.

Праз два тыдні Алеся прыехала з Крыма. Уся цвіла як майская ружа. Заўсёды вясёлая і прыгожая, пасля пабыўкі пад крымскім сонцам быццам расцвіла і павесялела. З такім захапленнем расказвала пра ўсё, што бачыла і чула. Яна была проста шчаслівая. А Іван глядзеў на яе, такую радасную, і думаў: ”Як добра, што я не паехаў. Пазбавіў бы чалавека радасці. Пагоршыў бы з ёй адносіны. Ды і невядома, ці спадабалася б мне ўжо так?.. Як ёй... Не, што не гавары, а добра зрабіў, што адмовіўся ехаць”.

**120% вітаміну**

Дзядзька Васіль прыехаў з Беларусі ў Маскву прадаваць яблыкі. Вялікі маскоўскі рынак гудзе, як марскі прыбой у час шторму. Кожны прадавец стараецца як мага хутчэй і выгадней прадаць свой тавар. На розныя галасы гандляры зазываюць пакупнікоў. Звонкі дзядзькаў

голас не губляецца ў гэтым зборышчы гукаў, гучыць неяк задзірыста і прывабна.

– Шаноўныя масквічы, мілыя, дарагія, купляйце яблычкі беларускія – 120 % вітаміну.

Масквічы здзіўлена глядзяць на дзядзьку, весела ўсміхаюцца, падыходзяць бліжэй. Ну хто ж адмовіцца ад 120% вітаміну? Хоць, можа, і не праўда, ну вядома ж няпраўда, але ж пакаштаваць хочацца. Весела ідзе гандаль у Васіля. Ужо і чарга стала, а дзядзька толькі ўсміхаецца… Ды выручку падлічвае.

## Не зусім штрыфель

Гарадскі рынак перапоўнены. Хто імкнецца прадаць свой тавар, а хто купіць. Мікола ходзіць па рынку, сярод радоў, шукае саджанцы харошых сартоў яблынь. Многа прадаўцоў стаіць сёння з саджанцамі, але яму вельмі хочацца купіць нешта сапраўднае і не трапіць на махляра. Шмат разоў чуў хлапец ад сваіх знаёмых розныя апавяданні пра тое, як махлююць на рынку прадаўцы. А так не хочацца быць падманутым.

– Штрыфель, штрыфель, штрыфель! – крычыць невысокі таўсматы мужчына.

Прыгледзеўся Мікола больш уважліва: дык гэта ж яго стрыечны дзядзька Аркадзь, якога ён даўно ўжо не бачыў, прадае саджанцы штрыфелю.

– Ну што ж, штрыфель – добрыя яблыкі. Можна купіць адзін ці два саджанцы такога сорту. Ды і дзядзька свой чалавек – не абмане.

– Добры дзень, дзядзька Аркадзя! Штрыфель прадаяце? Давайце я ў вас куплю. Вы свой, не абманеце, а ў другіх неяк не рашаюся купляць.

– Добры дзень, Коля! – дзядзька неяк сумеўся, замітусіўся. – Ну знаеш… гэта не зусім штрыфель… ну гэта знаеш… ну ты сам разумееш. Ты лепш яшчэ пахадзі па рынку. Вунь колькі тут саджанцаў.

Мікола развітаўся з дзядзькамі і пайшоў далей па гандлёвых радах. Зноў пачуўся голас дзядзькі Аркадзея:

– Штрыфель, штрыфель, штрыфель!

Сёння Мікола так і не купіў саджанцаў. Нешта расхацелася, прапала раптам жаданне купляць на рынку саджанцы.

**Можа, кампоціку?**

Жонка тэлефануе Антону на працу, што ў ваннай пацёк змеявік. Пакуль што капае паціхеньку, але адкладваць нельга напасля. Чым хутчэй будуць выпраўлены непаладкі, тым лепш. Антон адпрасіўся з работы і подбегам накіраваўся ў ЖКА, дзе размясціліся сантэхнікі. Майстар ЖКА выслухаў просьбу і паабяцаў:

– Ідзіце дамоў, яны хутка прыедуць.

І праўда, не прайшло і гадзіны, як прыехалі сантэхнікі. Яны перакрылі ваду і хутка, акуратна заварылі змеявік. Антону спадабалася, што так аператыўна адрэагавалі на яго просьбу. Ён падумаў: добра было б ім даць хоць што-небудзь за добрую працу. Грошай у самога мала. Што ж ім такое прапанаваць? Бутэлька віна завалялася з часоў гарбачоўскай перабудовы. Дык боязна даваць яе: можа, ужо сапсавалася.

– А дам ім смачнага кампоту.

– Хлопцы, можа кампоціку па стаканчыку?

– О не, не, – замахаў рукамі зваршчык. – Я цяпер ні грама… Я некалі так піў гэты кампот… Вось Пашка ведае… Можа ты, Паша, пацягнеш?

– Не, і я не хачу… Дзякуй.

Антон не адразу зразумеў, што сантэхнікі пад словам “кампот” мелі на ўвазе пладовае віно. Яны і не маглі падумаць, што ім прапанавалі сапраўдны кампот, а не віно ці гарэлку. Калі Антон зразумеў гэта, дык не стаў разачароўваць сантэхнікаў, якія не захацелі выпіць. Ён шчыра падзякаваў за працу. Хлопцы скруцілі шлангі і паехалі на другі аб’ект.

## Не туды… тут акно

“Колькі ўжо часу? Так светла ў пакоі”. Хацелася піць, язык перасох, ледзь варочаўся, прасіў вады ці, лепш, піва. “Колькі ж ён выпіў за ўчарашні дзень? Наогул з кім піў, дзе хадзіў? Вось і спаць лёг апрануты, нават чаравікаў не скінуў”.

Барыс ляжаў на ложку адзеты, абуты і ўспамінаў учарашні дзень. Галава гудзе як чыгунная і трашчыць ад болю. “Сёння ж выхадны, – узрадаваўся хлопец – можна яшчэ паляжаць, толькі трэба папіць вады і разуцца. Але хто гэта так смяецца?”

Ён ляжаў і гадаў: “Хто ж гэта так хіхікае? Нейкі смех, вельмі падобны на дзявочы. Можа, хлопцы ўчора дзевак прыводзілі? Што гэта, столь нейкая чыстая і сцяна не пашкрабана? Дзе гэта ён?”

Барыс схапіўся, сеў на ложку, агледзеўся. Нейкі незнаёмы пакой. Хмель хутка пакідаў хлопца. Ён убачыў нарэшце, што каля акна за сталом сядзяць дзве дзяўчыны.

Вытарашчылі вочы, глядзяць на збянтэжанага хлопца і хіхікаюць. Было з чаго смяяцца: адзенне пакамечанае, твар не лепшы за адзенне, валасы ўскудлачаныя, а ў вачах неверагоднае здзіўленне і пытанне: “Куды я трапіў?”. Яшчэ адна дзяўчына ляжала на ложку і таксама смяялася з яго. Хлапец нарэшце ўсё зразумеў і лёгка ўявіў, як гэта было. Ён учора п’яны зайшоў не на свой паверх. Па інерцыі ногі яго неслі недзе да сярэдзіны калідора, ну, як звычайна, толькі паверх не той аказаўся. Дзверы якраз закрыты, але не замкнуты. Ложак быў свабодны, мабыць, гаспадыня паехала да бацькоў, на вёску. Вось ён і заваліўся спаць у чужым пакоі, як у той навагодняй камедыі Эльдара Разанава. Чаму гэта дзеўкі дзвярэй на ключ не закрылі? А ён лёг на чужы ложак, як на свой. Праспаў цэлую ноч. Раніцой дзеўкі ўбачылі такога п’янага “госця” і цэлую раніцу смяюцца. О-ё-ёй, Бора, Бора, які канфуз. Уцякай хутчэй.

Падняўся хлапец на ногі і рушыў да дзвярэй. Хоць прачнуўся, а працверазіцца яшчэ не паспеў. П’яная сіла развярнула яго на 180 градусаў ды крутанула так, што ён пайшоў не туды, куды хацеў. А дзеўкі рагочуць, ажно пішчаць.

– Не туды, тут акно… Дзверы вунь там… І новы выбух смеху. Хлопец, нічога не гаворачы, павярнуўся і хуценька выскачыў з пакоя.

“Ой, як ён сёння падкачаў… Як падкачаў… Гэта ж так напіўся… Гэта ж ганьба. Цяпер дзеўкі ўсім раскажуць… Усе знаёмыя і незнаёмыя даведаюцца пра візіт няпрошанага госця. А ён жа нічога такога не хацеў, проста пераблытаў паверхі. І як можна пераблытаць паверхі? Можна, вядома, можна? Але навошта было столькі піць? Не-е, Бора, пара кідаць гэтыя п’янкі. Але чаму дзверы дзяўчаты не закрылі на ключ? Супадзенне

такое… Яны забыліся закрыць, а ён якраз п’яны прывалокся. Не-е, ужо хопіць…

Пара кідаць гэтыя п’янкі.

**Певень**

Куры залезлі ў агарод, павыдзіралі толькі што пасаджаную цыбулю. Бабуля паганяла птаства з градаў, пазбірала выдраныя цыбулінкі, зноў пасадзіла іх на месца. “Колькі ж ужо пасвіць гэтых курэй? Лезуць усюды, і свой агарод дзяруць, і суседскіх град не абмінаюць. Колькі непрыемнасцей ад іх. Асабліва збрыдзеў гэты певень: вядзе за сабою ўсіх курэй, нават платы яму не перашкода, пералятае з першага разу”.

– Андрэй, – просіць баба дзеда, – што-небудзь рабі гэтаму пеўню… Альбо засячы, альбо закрый у хлеўчыку.

– Шкада сячы. Такі вялікі, прыгожы, сам чырвоны, а хвост чорны, ажно блішчыць, сінім адлівае. А пяе як… Я яго лепш за нагу прывяжу. А куры будуць побач хадзіць. Адны на грады не пойдуць.

На другі дзень дзед залез у хлеўчык, закрыў дзверцы. Певень у рукі не даваўся, спалоханыя куры кудахталі, пер’е ляцела па паветры… Нарэшце дзед злаўчыўся і злавіў непакорнага гаспадара куратніка. Прывязаў да нагі вяровачку, а другі яе канец замацаваў за калочак. Выбраў на надворку месца і загнаў калок малатком у зямлю. Пеўню гэта не спадабалася. Да сённяшняга дня ён адчуваў сябе гаспадаром у куратніку, гуляў вольна, дзе хацеў, вадзіў за сабой паслухмяных нясушак. А цяпер яго прывязалі, як арыштанта. Перад сяброўкамі нават брыдка. Кінуўся бегчы, а калочак не пускае. Певень

захваляваўся, сабраў усе сілы і так рвануўся, што ажно ўпаў. Але калок і вяроўка былі для яго занадта моцнымі. Кожны дзень спрабаваў вырвацца, але ўсё дарэмна. Вясёлы яшчэ нядаўна кавалер, стаяў сумны прывязаны на надворку. Куры хадзілі вакол свайго камандзіра, на грады больш не лезлі і наогул далёка не адыходзіліся. Пеўню так не падабалася ўсё гэта, ён нават спяваць перастаў. Яму было брыдка перад сваім гарэмам, але што тут зробіш?

Стаяў цудоўны летні дзень. Сабраліся мужчыны ў нядзелю пагуляць у карты. Дзед вынес з хаты табарэткі, услончык. Мужчыны селі гуляць у “філя”, а бабуля з унукам прымасціліся побач, каб назіраць за цікавай гульнёй. З другога боку вуліцы крочыў суседскі певень. Чым бліжэй падходзіў, тым больш незвычайна сябе паводзіў, быццам задумаў нешта. Ён падбіраўся, падкрадваўся да дзедавых курэй. Навязаны дзедам гаспадар “гарэма” пачаў непакоіцца, пераступаць з нагі на нагу. Няпрошаны госць хуценька кінуўся на рабую курачку і асядлаў яе. Дзедаў певень усё гэта бачыў, умомант напружыўся і кінуўся ў бой. Сілы падвоіліся, а можа і патроіліся. Ён распушыў крылы, вырваў калок з зямлі і кінуўся на саперніка. У гэта момант ён абараняў гонар свой і свайго гарэма. Суседскі певень, як няўдалы каханак, кінуўся наўцёкі. Дзедаў любімец гнаў нахабнага суседа цераз вуліцу. Лупцаваў дзюбай, калашмаціў крыламі ажно да самага седала. Ён паказаў, хто тут гаспадар. Вяроўка і калок цягнуліся ззаду, яны не маглі стрымаць раўнівага пеўня. Мужчыны ў гэты момант нават адклалі ўбок карты, перасталі гуляць. Усе, хто сядзеў на надворку, з цікавасцю назіралі за гэтай трагікамедыяй у свеце жывёл.

– Ты бачыш, не даў чужаку са сваёй каханкай палюбіцца, – усміхнуўся дзядзька Міша. – Ну цікава, панімаеш, як у людзей.

– Але як гэта ён калок вырваў? – дзівіўся дзед Андрэй.

## Вадаспад

Пасля працоўнай змены Іван зайшоў у буфет, які нібы спецыяльна паставілі на шляху паміж заводам і яго кватэрай, заказаў стакан віна. Крыху пастаяў, потым паўтарыў. Побач стаялі хлопцы, "накачаныя", ужо ледзь языкамі варочалі.

– Больш затрымлівацца нельга, а то буду да іх падобны, – падумаў хлапец. – Пайду лепш на рэчку прагуляюся.

Цяпер, пасля выпітага віна, хацелася нечага такога асаблівага, як кажуць, светлага і чыстага. А рэчка вабіла да сябе пастаянна. На тоненькай кладачцы маладзенькая дзяўчына паласкала бялізну, усяго некалькі маек.

– Здрастуйце. Добры дзень, – прывітаўся хлопец і адразу перайшоў на "ты". – Што гэта ты тут рыбу палохаеш? А я толькі хацеў парыбачыць.

– Здрастуйце. Дык жа я нешта не бачу ні вудачкі, ні сеткі. Ды і рыбы тут няма. Што тут лавіць, толькі маленькія пячкурыкі.

– Ды я тут блізка жыву, за рэчкай. Вазьму што трэба. Хуценька збегаю.

– А я з гэтага боку рэчкі. Яшчэ бліжэй.

– Дык мы амаль суседзі.Цераз рэчку жывём.

– А Івенец такі маленькі, што ўсе суседзі.

– Мне так падабаецца гэтае мястэчка. Ты з кім жывеш?

– На кватэры ў цёткі роднай. Ты таксама, мабыць, прыезджы.

– Адкуль ведаеш?

– Проста так здагадалася. Пайду я. Час ужо.

– Скажы хоць, як цябе завуць?

– Галя. А цябе?

– Іван… Слухай, Галя, у цябе ёсць час? Прыйдзі сюды праз пару гадзін. Я буду цябе тут чакаць. Прыйдзі, калі ласка, а то не паспелі і пагаварыць добра.

– Прыйду, – усміхнулася дзяўчына. – Калі табе так хочацца пагаварыць, то прыйду.

Яна падхапіла вялікі тазік з бялізнай і пайшла не аглядваючыся, зарадзіўшы ў сэрцы студэнта нейкае трапяткое пачуццё. Незвычайнае хваляванне, неспакой, нават трывога ахапілі Івана. Разам з тым было прыемна, што такая прыгожая дзяўчына згадзілася прыйсці да яго ўвечары на сустрэчу. Прыгожая, як здобная булачка ці пончык. Яна не тоўстая і не худзенькая, яна здобная.

Да прызначанага часу заставалася паўтары гадзіны. Дома хлопец усё глядзеў на гадзіннік.

Гаспадар заўважыў хваляванне, што ахапіла кватаранта.

– Што гэта ты глядзіш на гадзіннік праз кожныя пяць хвілін? Недзе на вечар збіраешся? Мабыць, да дзяўчыны.

– Ты, дзед, усё ведаеш. Не буду махляваць. Іду на сустрэчу.

– А хоць харошая дзяўчына?

– Мне падабаецца… Вельмі….

– Ну то ідзі ўжо. Лепш раней прыйсці, чым спазніцца.

– Ты, дзед, як заўсёды, маеш рацыю. Я пайшоў…

Прыйшоў да рэчкі на дамоўленае месца хвілін за дзесяць і глядзеў у той бок, як матрос з карабля, які даўно не бачыў зямлі. Галя прыйшла своечасова. Яна

ішла, сціпла схіліўшы галаву, быццам саромелася позірку яго вачэй. “Якая ў яе ўсмешка”, – адзначыў ён.

– Ты даўно тут? Я не спазнілася?

– Не… Люблю рэчку, ды яшчэ калі не адзін, а з табой, такой прыгожай.

Галя ўсміхнулася, быццам ружа, якую асвяціла сонца. Яны ішлі па беразе гэтай прыгожай ціхай рачулкі і весела балбаталі. Каб спытаць потым, аб чым яны гаварылі, дык і ўспомніць цяжка. Можна сказаць, ні аб чым. Але ў гэтай звычайнай размове было столькі цеплыні, столькі прыемнага і цікавага, што не верыцца, як гэта ў простых словах умяшчалася. Яны шчодра дарылі сваю радасць рэчцы, траве, паветру. Бо нельга ж у сабе трымаць столькі радасці. Маладыя людзі не заўважылі, як далёка зайшлі ад месца сваёй сустрэчы. Рэчка была тут нейкай іншай. Старадаўнія мураваныя збудаванні надавалі ёй казачную загадкавасць.

Вада з грукатам пералівалася цераз тоўстыя бетонныя пліты і падала ўніз. Гэта быў сапраўдны вадаспад.

– Я тут ніколі не быў. Як тут прыгожа!

– І я не была. Вось бачыш, ужо ёсць карысць ад нашай сустрэчы.

– Галечка, што там карысць… Я так рады, што з табой пазнаёміўся.

– І я рада… Я ўжо бачыла цябе раней. І ўсё думала аб табе.

Яны стаялі над вадаспадам, цесна прыціснуўшыся адно да аднаго. Тонкае летняе адзенне не перашкаджала адчуваць асалоду дакранання двух прывабных маладых цел. Усё было напружана, асабліва тое, што павінна быць напружаным, губы зліліся ў пацалунку. Усё было ў гэтым пацалунку. Ён атрымаўся не такім зграбным, як у фільмах, але такім салодкім, што захацелася паўтарыць.

Куды ўсё прапала? Куды ўсё падзелася? Колькі часу прайшло?

Хлапец зноў пачуў шум вадаспаду і Галін голас.

– Пойдзем дамоў. Позна ўжо… Цётка турбуецца. Маме раскажа.

– Давай яшчэ крышку пабудзем. Не хочацца дамоў.

– Калі я табе не надакучыла, дык можам заўтра сустрэцца.

– О-о-о, Галечка, ты што! Ну, добра, пойдзем. А заўтра зноў сюды вернемся. Мне тут усё падабаецца. Як у казцы старадаўняй.

– Так прыгожа. Мы сюды абавязкова прыйдзем.

Яны ішлі назад ужо крыху хутчэй. Час падганяў. Сонца даўно зайшло, толькі на захадзе былі відаць чырвоныя палоскі. У дамах гарэла святло. Яны ішлі радасныя і шчаслівыя. Здавалася, што іх сягонняшняя сустрэча будзе бясконца прадаўжацца, стане сустрэчай на доўгія гады. Яны думалі, што заўтра абавязкова прыйдуць да вадаспада, каб паслухаць яго чароўны голас. Яны яшчэ не ведалі, што болей ніколі не прыйдуць сюды і не пачуюць гэтага казачнага булькатання вады. Сустракацца яшчэ будуць, але сюды больш не прыйдуць.

## Агні над ракой

Наш костёр в тумане светит,  
искры гаснут на лету…  
(з песні)

Як толькі наступаў вечар і сонца размалёўвала неба на захадзе яркімі чырвонымі фарбамі, закаханы студэнт спяшаўся да ракі. Там ён знойдзе сваю палавінку, сваю Галінку. Яна прыйдзе, абавязкова прыйдзе. Ужо каторы

раз яны сустракаюцца, а Іван не можа нарадавацца, наглядзецца на яе. Як толькі ўбачыць знаёмую постаць, сэрца калоціцца ад радасці. Здавалася, што гэта сон – такая дзяўчына спяшаецца да яго на сустрэчу. Яшчэ ніяк не мог да гэтага прывыкнуць. Ён верыў і не верыў, што яе чароўная ўсмешка прызначана яму і толькі яму. Нават на адлегласці адчуваў яе цяпло. Ён заўважыў, як усё раптам змянілася. За цэлы дзень ні адной непрыемнасці. Ежа смачная, вада ў рэчцы цёплая, людзі прыветна ўсміхаюцца, трава зелянее, птушкі шчабечуць. У кармане грошы…Ніякай стомы пасля працы. І ўсё гэта прыйшло да яго пасля сустрэчы з Галяй.

Яны ішлі, як звычайна, берагам ракі. Далёка ў цемры гарэлі два агеньчыкі. Агні не былі падобны да святла ў вокнах. Вядома, гэта не святло электрычнай лямпачкі. Гэта гараць кастры.

– Давай паглядзім, што там такое.

– Давай… Так цікава, але страшна. Невядома, хто там.

– Чаго баяцца? Мы ж разам пойдзем.

– Учора гэтых агнёў не было.

Навокал было ціха-ціха. Здавалася, што іх словы чутны за вярсту. Прыйшлі хутчэй, чым думалі. Вельмі ўжо агеньчыкі здаваліся далёкімі, але незаўважна аказаліся побач. Каля кастроў завіхаліся людзі. Іх постаці, асветленыя полымем, здаваліся нейкімі незвычайнымі. Але самым неверагодным было тое, што і на лодцы, якая стаяла на сярэдзіне ракі, гарэў агонь. Невялікі агеньчык лунаў над вадой. Здавалася, што гэтыя ўжо немаладыя людзі стваралі нейкую незвычайную таямніцу.

– Добры вечар…

– Добры вечар…

– Скажыце, добрыя людзі, што вы робіце?

– Рыбу ловім…

– Поспеху вам. Багатага ўлову. Толькі як вы яе ловіце? І навошта кастры паліце, ды яшчэ на лодцы? Яна ж можа загарэцца.

– Не загарыцца. Бачыце, пліта ляжыць незгаральная. А на ёй вогнішча. Рыба ідзе на агонь. Вось мы яе і ловім.

– Першы раз такое назіраю. І ты не бачыла раней?

– Не… я нават і не чула пра такое.

– Міша, плыві сюды. Вазьмі на борт гэтую парачку. Няхай паглядзяць. Гавораць, што першы раз бачаць такое.

Лодка падплыла да берага. Іван з Галяй скінулі абутак і па вадзе зайшлі ў лодку.

– Толькі сядзіце ціха… Не варушыцеся… Тут жа агонь. Трэба асцярожна.

– Мы будзем ціхенька сядзець…

Лодка павольна паплыла на сярэдзіну ракі.

– Не шавяліцеся і нічога не гаварыце, – шаптаў Міша. Праз некаторы час зноў зашаптаў:

– Паглядзіце за борт.

Тры пары вачэй утаропіліся ў адным напрамку. Там, дзе святло кастра прасвечвала ваду, нейкія цені мільгалі на глыбіні.

– Дык гэта ж рыба, – зашаптала Галя.

– Правільна, малайчына. А ты яшчэ не разгледзеў?

– І я ўжо бачу, што рыба. Як вы яе толькі ловіце?

– Высаджу вас на бераг і буду лавіць.

З берага назіралі ўжо больш спакойна, як Міша і яго напарнік завіхаюцца на лодцы. Улоў павінен быць харошы. Ну ўмеюць жа людзі. А на беразе ўжо рабілі сваю справу жанчыны. Вада ў вялікім кацялку вісела над вогнішчам. Жанчыны чысцілі рыбу, абіралі бульбу і моркву.

– Мабыць, юшку варыць будзеце? – здагадаўся Іван.

– Юшку. І вас запрашаем да нашага стала.

Неяк нязручна сядзець тут з незнаёмымі людзьмі і чакаць юшкі. Добра было б паспытаць, але…

– Не, дзякуй вам, – сказала Галя, – мы пойдзем.

– Не будзем вам замінаць, – дадаў Іван.

– Ну што вы… І нам весялей з вамі, маладымі. Пасядзіце… юшка хутка будзе гатова. Яна хутка варыцца. І выпіць у нас ёсць.

– Ой, дзякуй вам, добрыя людзі. Мы і так убачылі шмат цікавага. Раней такога не бачылі і не чулі. Мы пойдзем. Дзякуй вам.

– А мо перадумаеце, дык вяртайцеся. Не заблудзіце ў цемры.

– Не заблудзім, ды і вашы агні, як маякі, свецяць. А здалёк так прыгожа. Удала вам адпачыць.

– І вам каб удалося, як і нам, – засмяяліся жанчыны.

Хутка кастры засталіся ззаду. Было ўжо шмат часу, а спаць зусім не хацелася. Так бы і прасядзелі з гэтымі рыбакамі да раніцы. Ды нельга… Цётка Галю чакае, ды і гаспадары студэнта не пахваляць за позні пагулянкі.

– А праўда, харошыя людзі?

– Праўда. Нам пашанцавала. Ванечка, сёння не будзем затрымлівацца каля хаты. Цётка скажа, што рана яшчэ бегаць па начах. Мне ж толькі праз месяц споўніцца васемнаццаць.

– Так не хочацца разыходзіцца.

– Я пабегла… Да заўтра.

Галя вырвалася з яго абдымкаў і хуценька пабегла дахаты. Зачыніліся дзверы, ляснула засаўка. Іван крыху пастаяў каля хаты. На кватэру ішоў дальняй дарогай, цераз мост. Думаў пра Галю, пра рыбакоў. Як яму пашанцавала, што ён прыехаў сюды на практыку. Гэта шчасце, што ён пазнаёміўся з такімі людзьмі. Гэта сапраўды шчасце. З маста былі відаць два далёкія

агеньчыкі. Яны падміргвалі закаханаму, шчасліваму хлопцу.

## Глядзі на шалі

Восень на вёсцы. Вяскоўцы здаюць яблыкі. Коля Нюрын, добра знаёмы яшчэ малады мужчына з суседняй вёскі, працуе прыёмшчыкам. Машына, на якой ён прыехаў, ужо напалову загружаная. Тармазнуў каля штабялёў з мяшкамі, прывітаўся з жанчынамі, якія ўжо даўно яго чакалі.

– Ну што, здаём яблыкі?

– Здаём, Колечка, здаём, – зашумелі бабы.

Дуся тут самая маладая сярод жанчын. Яна сабрала пяць мяшкоў ападкаў і спадзяецца здаць першай. Некалі яна вучылася з прыёмшчыкам у адным класе. Цяпер вось стаіць прапітая, пракураная ўся з ног да галавы. Яблыкі ў яе паляжалыя, шмат загнілых. Вось Дуся хоча разгаварыць прыёмшчыка, задурыць яму галаву, каб не звяртаў увагі на загнілыя яблыкі. Вядзе размовы пра каханне, пра секс.

– Коля, ты не глядзі на ногі. Прыгожыя ногі. Ты і хочаш ухваціць за іх; ды як мага вышэй. Бачу, як глядзіш, ты лепш на вагу глядзі. Не абманвай… Калі ўжо хочаш за нагу пашчупаць, дык за яблыкі добра плаці.

– Дуся! – закрычаў прыёмшчык. – Якая нага?! У цябе нага, як у вераб’я калена. Хоць жа каб нага была, хоць крыху паўнейшая ды гладчэйшая. Не патрэбны мне твае ногі, а вось яблыкі ўжо паляжалыя. Лезь на машыну, выкідай загнілыя. Ой, Дуся, Дуся, думала, што я не заўважу. Лезь!

Бабы зарагаталі. Не ўдалося Дусі спакусіць Колю сваімі нагамі. Раскусіў яе хітрыкі прыёмшчык.

**Цікавы мужчына**

Па вузкім фабрычным калідоры ішоў чалавек і думаў. “Хутка ўжо 20 гадоў як ён ажаніўся. За ўсе гэтыя гады не так часта чуў ласкавыя і прыемныя словы, як гэта хацелася. Ці то ён сам не заслугоўвае, ці то жонка скупая на пахвалу? А можа, проста не хоча раскідацца такімі каштоўнымі, але з-за частага ужывання стаўшымі даволі банальнымі словамі. Цікава ведаць усё ж такі, у чым тут прычына?” З такімі думкамі прыйшоў ён у цэх, дзе працуе жонка. Ціха навокал, станкі не працуюць, машыны не гудуць. Абедзенны перапынак.

– Дзе ж жонку знайсці? – думаў Антон.

Ён сёння вярнуўся з “фазэнды” пазнавата. Жонка ўжо пабегла на працу. Не бачыліся ўжо тры дні, ды і сёння пагаварыць не паспелі. Хацелася вырашыць розныя надзённыя пытанні. “Куды ж ісці, дзе яе шукаць?” Зазірнуў у адны дзверы, у другія… Нічога цікавага. Да трэйціх не дабраўся…Рэзка адчыніліся створкі, і выйшла жанчына ў чыстым квяцістым халаце.

– Мабыць, начальніца якая? – падумаў Антон. – Трэба спытаць, дзе работніцы падзеліся і як іх знайсці.

– Добры дзень, – прывітаўся ён, - скажыце, калі ласка, дзе вашы работніцы?

– Вы ведаеце, яны цяпер усе абедаюць. Пайшлі ў пакой прыёму ежы. Пасядзіце крыху, яны хутка прыйдуць.

– А можа, вы падкажаце, дзе яны абедаюць, дык я пайду насустрач. Хоць некалькі хвілін выгадаю.

– Вы нічога не выгадаеце. Яны, мабыць, ужо ідуць.

– Ну добра… Вы мяне ўгаварылі… Пасяджу, пачакаю.

Жанчына ўсміхнулася і пайшла з цэха. Антон пастаяў крыху, паглядзеў па баках, пакруціўся ля машын. У калідоры пачуліся вясёлыя галасы жанчын.

– Ну, ўжо ідуць… І чакаў нядоўга…

У цэх уваліласся шумная кампанія ў пацёртых, аблепленых пухам халатах. Жанчыны на імгненне прыціхлі, утаропіліся на яго, быццам даўно не бачылі, і дружна грымнулі вясёлым залівістым смехам. Яны так рагаталі і весяліліся, што, здавалася, іх ужо нельга спыніць. Яму нават стала на момант неяк непрыемна.

– Чаго вы так рагочаце? – спытаў ён жонку.

– А тут ішла жанчына, – скрозь смех ледзь выгаварыла Аня, – дык яна нам і кажа: ідзіце, там вас сімпатычны, цікавы мужчына дапытваецца. Мы вось прыйшлі і ўбачылі цябе.

– Так-так, – незадаволена буркнуў Антон. – Я для вас ужо не “сімпатычны” і не “цікавы” мужчына. Каго ж вы хацелі ўбачыць?

– Ды не, мы думалі, можа, дырэктар, ці хто, – смяялася Аня.

– Вы думалі, што грузін нейкі… - незадаволена ўпікнуў Антон.

– Ды хопіць табе, – спахмурнела жонка. – Чаго ты прыйшоў?

– А нічога… Проста так… Я ўжо і забыўся.

– Ну, добра, не крыўдуй, – жонка пагладзіла яго па руцэ.

– Трэба ж разбірацца. Паслухай хоць, што разумныя людзі кажуць. А вы нічога не разумееце, і смешкі, хіханькі тут.

Антон крута развярнуўся і пайшоў з цэха. Яму было крыўдна, што жонка і яе сяброўкі не прызналі ў ім “цікавага мужчыну”. Ды яшчэ рагаталі, калі незнаёмая жанчына так яго назвала.

**Трапны навагодні стрэл**

– Хутчэй адкаркоўвай шампанскае. Пуцін будзе віншаваць.

– Ранавата яшчэ.

– Падрыхтуйся… Хоць фальгу сарві з бутэлькі, а то ты такі маруда, што ўсё робіш са спазненнем, – весела шчабятала жонка.

Вясёлы настрой пануе з самай раніцы. І чым бліжэй Новы год, тым весялей на душы. За сталом уся сям’я. Да Новага года засталася гадзіна, а жонка расіянка захацела сустракаць яго абавязкова пад бой курантаў. Антон таксама не супраць сустракаць Новы год два разы за вечар. На стале ўжо ўсё гатова, прысмакі такія бываюць толькі па вялікіх святах. Тут і рыба ”гарбуша”, запечаная ў духоўцы, і курачка з бульбай, салат “пад шубай”, бананы ды хурма. А якія апетытныя рагалікі! Цэлая вялікая міска напоўнена рагалікамі з сырам. Па ОНТ Галкін дае канцэрт, а па РТР – “Блакітны агеньчык”. Ажно вочы разбягаюцца – што есці, што глядзець.

Антон паслухаў жонку і ўзяўся адчыняць шампанскае. Абдзёр бліскучую фальгу, зняў дроцік з корка. Усе сядзяць, глядзяць уважліва, чакаюць. На экране з’явіўся Пуцін. Пачаў чытаць сваё віншаванне.

– Налівай, ужо пара, – турбуецца Аня.

Антон паварушыў незгаворлівы корак… Цяжка паддаецца… Паварушыў яшчэ раз, потым пацягнуў, зноў пакратаў. – Ба-бах! – корак пластмасавы вылецеў куляй з рэзкім як стрэл гукам. Аня ў той жа момант схапілася рукой за свой нос. Усе за сталом глядзелі на яе. Антон захваляваўся:

– Што такое? Што здарылася?

– Дык ты ж стрэліў мне ў нос! – пакрыўдзілася Аня.

– Вось табе і на… – збянтэжыўся "стралок".

– Мама, у цябе кончык носа пачырванеў, – заўважыла малодшая дочка.

Стала неяк няёмка, але Антон зразумеў, што не час апраўдвацца. Новы год лепш праехаць на вясёлай хвалі. Ён падняў руку ўверх, а потым рэзка апусціў уніз.

– Йес! – выгукнуў пераможны кліч, – дакладна ў дзесятку.

Зарагаталі ўсе, нават пацярпелая, напружанне знікла. Зноў стала свабодна і весела. Пакуль смяяліся, ледзь не прапусцілі звон курантаў. Пад звон курантаў і бакалаў віншавалі з Новым годам, пілі шампанскае. Што і казаць, вясёлая сустрэча Новага года па расійскім часе. Так бы мовіць, "Асаблівасці нацыянальнай сустрэчы Новага года".

**Зімовыя зайчыкі**

Валік прачнуўся раней за ўсіх. Ён любіў так рана прачынацца, а вечарам рана класціся спаць. Вельмі ж ужо падабалася назіраць, як узыходзіць сонца. Вось і сёння, толькі развіднела, а ён ужо не спаў. Проста ляжаў на ложку і разглядаў сцяну насупраць. Прыгожыя зялёныя шпалеры дазвалялі глядзець бясконца доўга на

абстрактныя малюнкі і формы. Пасвятлела ў пакоі, а на сцяне з’явіўся невялікі экран з кадрамі фантастычнага фільма. Жоўценькія вясёлыя зайчыкі, гэтыя пасланцы вялікага Сонца, праляцелі мільярды кіламетраў, праніклі скрозь шкло і селі на зялёнай сцяне. Акуратна намаляванае акно адбілася, як на экране. Іскрыстая, жывая, вясёлая жоўтая фарба ажывіла ўмомант зялёныя шпалеры. Сонечныя зайчыкі, усе роўныя браты-блізняткі, падобныя так, што нельга адрозніць адзін ад другога, змарыліся крыху, пакуль на вялікай хуткасці ляцелі праз халодныя касмічныя прасторы.

Яны вельмі спяшаліся, каб своечасова даляцець да Зямлі, каб сесці на зялёныя шпалеры. Вельмі любілі сядзець на гэтай сцяне, якая нагадвала зялёны луг каля рэчкі, дзе яны бегалі, скакалі, купаліся ўсё лета. Браткі-зайкі радасна ўсміхаліся, пераміргваліся, як маленькія дзеці-пестуны, задаволеныя, што і сёння змаглі пераадолець усе перашкоды на сваім шляху. Касмічны холад бясконцых глыбінь, дажджлівыя, цёмныя хмары, заслонкі на вокнах засталіся ззаду, і яны ўжо тут, на прыгожай зялёнай сцяне.

Валік глядзеў на вясёлых зайчыкаў, захоплены іх прыгажосцю і вечна жывой энергіяй, радаснай і светлай. Што такое Сонечны прамень, што такое гэты Сонечны зайчык? Людзі глядзяць на іх, як на звычайны адбітак святла. Людзі прывыклі, прызвычаіліся і не бачаць у гэтым нічога незвычайнага. А на самай справе гэта такі цуд, які нельга апісаць, пра які нельга расказаць, ці разгадаць яго. Толькі цяпло і святло адчувае і бачыць чалавек. Часам спрабуе сам сабе растлумачыць, але, як заўсёды, блукае вельмі далёка ў пошуках ісціны. Хіба толькі колер неяк можна прыраўняць да зямных колераў. Жаўток курынага яйка ды кветкі дзьмухаўца крыху падобныя да сонечных зайчыкаў. Нездарма жоўты

сонечны колер у старажытным Кітаі лічыўся магічным. Толькі імператар Паднябеснай мог насіць адзенне жоўтага колеру, упрыгожваць свае палацы, спаць на жоўтай пасцелі. Толькі ўсё гэта крыху падобна з выгляду да колеру сонечных зайчыкаў. Гэта невялікае падабенства… Створанае рукамі чалавека вельмі далёка да незвычайнага.

Цёмная хмара паволі рухалася, засланяючы сіняе неба. Там, дзе яна праходзіла, усё раптоўна мянялася. Без Сонечных зайчыкаў рабілася холадна і няўтульна. Пайшоў дождж са снегам. Рэдкія прахожыя спяшаліся дамоў, каб хутчэй схавацца. Яны баяліся той сырасці і холаду, якія несла вялікая хмара, усе баяліся за сваё здароўе. Зайчыкі пакінулі зялёную сцяну з мяккімі шпалерамі. У іх з’явілася новае заданне – крыху сагрэць халодную цёмную хмару, якая паволі плыла над Зямлёй. Сонечныя промні, жоўценькія зайчыкі, не выбіраюць, хто лепшы, хто горшы. Яны аддаюць сваё цяпло і ласку ўсім – старым і малым, тоўстым і тонкім, бедным і багатым. Нават суровая, цёмная хмара адчувае на сабе іх цеплыню і ласкавыя дотыкі. Нават цёмная халодная хмара крыху цяплее і святлее, калі сустракаецца з пасланцамі Сонца. Мацнее вецер, гоніць хмару на ўсход, неба святлее, і зноў усё мяняецца. Вясёлыя сонечныя зайчыкі спяшаюцца на зямныя прасторы. Яны бягуць па палях і лясах, садзяцца на кветкі, на стрэхі, вяртаюцца на зялёную сцяну. Таямніца касмічных прастораў зноў завітала ў маленькі пакой. На тварах людзей зноў загараюцца ўсмешкі, блішчаць у вачах сонечныя водбліскі, а ў сэрца прыходзіць надзея на лепшую будучыню.

Калі Валік быў яшчэ маленькі, ён аднойчы ўвечары, пасля заходу Сонца, спытаў у бацькі:

– Тата, а Сонечныя зайчыкі прыйдуць заўтра ў нашу хату?

– Абавязкова прыйдуць. Ты ў гэтым не сумнявайся.

Валік верыў свайму бацьку. Ён ужо болей не сумняваўся, што Сонечныя зайчыкі пераадолеюць усе перашкоды і заўтра зноў з’явяцца ў іх хаце, на сцяне з прыгожымі зялёнымі шпалерамі

.

## Хто большы?
## (Фантастычная казка, расказаная цёткай ці бабуляй)

Даўным-даўно жыў на свеце працавіты чалавек. Усё свае жыццё працаваў на зямлі. Так працуючы і састарэў, стаў слабы, нямоглы. Калі прыйшла пара паміраць, паклікаў да сябе трох сваіх сыноў.

– Прыйшла мая пара, – сказаў ён сынам. – Вялікага багацця я не нажыў… Пакідаю вам толькі адну свінню, якую карміў многа гадоў. Прадайце яе, а грошы падзяліце на траіх, усім пароўну.

Сказаў так і адышоў ў іншы свет. Сыны пагаравалі крыху, а потым рашылі выканаць бацькаў наказ. Свінню ніхто з мясцовых багацеяў не купіў, вельмі ўжо вялікая вырасла. Толькі цар мог заплаціць такія грошы. Пагналі свінню ў горад да цара. Старэйшы сын стаў паперадзе свінні, сярэдні пасярэдзіне яе, а малодшы ззаду, каля хваста. І рушылі ў дарогу. Шлях быў няблізкі. Людзі выходзілі з хат, глядзелі на жывёліну і здзіўляліся яе велічыні. Каля дарогі сядзеў сівенькі дзядок. Ён падказаў старэйшаму сыну:

– Хутчэй ганіце сваё багацце. Ужо цэлы год прылятае з высокіх гор велізарны арол, шукае здабычу. Ён можа схапіць нават такую вялікую жывёліну, як ваша.

Паслаў старэйшы брат конніка да сярэдняга з наказам, каб хутчэй рухаліся. Пакуль ехаў вершнік ад старэйшага брата да сярэдняга, дык прайшла палавіна дня, а калі дабраўся да сярэдняга, ужо і вечар надышоў. Ужо сонца было на захадзе, калі наляцеў гіганцкі арол. Ажно заклекатаў ад радасці, калі ўбачыў такую багатую здабычу. Схапіў свінню ў кіпцюры і панёс у горы. Надыходзіла ноч, і арол сеў у незнаёмым месцы, каб дачакацца раніцы. Як толькі ўзышло сонца, арол убачыў, што сядзіць у горнага казла на рагах. У гэты ж час пастух прыгнаў гурт авец, пусціў іх на пашу, а сам прылёг у казла пад барадой. Дзень летні, цёплы, нават гарачы, а дзед любіў пасядзець у цяньку. Арол пачаў дзяўбці свінню, ласавацца сваёй здабычай. Лапатка свіная паляцела ўніз і трапіла дзеду проста ў вока. Стары задраў галаву, каб паглядзець, што там за шум такі ўверсе. Вось у гэты момант яму і запарушыла вока. У воку дзедавым плавала сорак пяць лодак з рыбакамі. “Парушынка” замінала рыбакам, і яны выкінулі свіную лапатку з вока. Дзед, задаволены, што вока ўжо не свярбіць, пагнаў авечак на другое месца. Праз некаторы час па гэтых мясцінах прабягала ліса. Яна ўбачыла свіную лапатку і з радасцю праглынула гэты далікатэс за малінку, толькі аблізнулася. Сорак пяць паляўнічых убачылі лісу, далі залп з усіх ружжаў і застрэлілі рыжую.

Усе разам садралі з яе шкуру, але толькі з аднаго боку. На другі бок павярнуць такую вялікую лісу ў іх не хапіла сілы. У гэты час побач праходзіла маладая кабета. Яна прапанавала паляўнічым прадаць ёй шкуру. Даўно ўжо збіралася пашыць мехавую шапачку свайму двухгадоваму сыну. Але палавіны шкуркі ёй будзе мала, на шапачку патрэбна уся шкурка… Яна лёгка перавярнула лісу на другі бок. Паляўнічыя за грошы, што дала жанчына, купілі бочку віна. Добра выпілі і пачалі

думаць ды гадаць, хто ж большы. Доўга спрачаліся, ды так і не рашылі. А праўда, цікавае пытанне? Дык хто ж большы?

## Свой дзед

Перад самой вайной дзед Андрэй купіў дзве бутэлькі гарэлкі. Да гэтага часу пілі ў асноўным самагонку, а на свята куплялі польскую "Выбарову". Як толькі змянілася ўлада, дык і гарэлка змянілася. Захацелася паспрабаваць новы прадукт. Жонцы не гаварыў нічога, а занёс бутэлькі на гарышча. Прыйдзе свята вялікае, дык можна і савецкую паспрабаваць. А пакуль няхай будзе ў запасе, на ўсякі выпадак. Праз некалькі дзён пачалася Айчынная вайна. Грукочуць пушкі, равуць самалёты, гінуць людзі. Забыўся дзед на свой запас. Тры гады немцы стаялі ў вёсцы. Гарэлка ўвесь час знаходзілася на гарышчы, ніхто яе не знайшоў, а дзед не ўспомніў ні разу. І вось пагналі Саветы немца на захад. Перадавыя часці Чырвонай Арміі ўвайшлі ў вёску. Адразу зашнырылі па дварах у пошуках ежы. Дзед ведаў, што салдаты заўсёды хочуць есці, таму і не здзівіўся, што палезлі ў камору. А адзін нават на гару чамусьці палез. Праз некалькі хвілін салдацік з задаволенай усмешкай спускаўся па драбінах… У руках трымаў дзве бутэлькі фабрычнай гарэлкі.

– О, папаша, ты свой чалавек! У цябе яшчэ савецкая гарэлка захавалася, – заўважыў ён весела і падміргнуў. Сябры задаволена зарагаталі.

– Шустры які… маленькі, несамавіты, а шустры, – падумаў дзед. – Немцы за тры гады не змаглі знайсці, а

гэты курдупель за некалькі хвілін знайшоў. Гэты “крот” і з-пад зямлі дастане.

Вось цяпер дзед нарэшце ўспомніў пра гарэлку.

**Не той хлопец. Перапуталі. Ну і што?**

Паехалі хлопцы ў далёкую вёску на вяселле. Вялікая вёска, можна сказаць, пасёлак. Усе незнаёмыя. Гулянка ў самым разгары. Вадзім засядзеўся за сталом. Перакуліў некалькі чарак, добра накачаўся. За сталамі зусім моладзі няма, усе танцуюць на вуліцы. Пара ўжо і яму асвяжыцца. А тут якраз і запрашаюць на выхад.

– Ідзі там цябе хлопцы завуць…

– Ну, мабыць, сябры, – Вадзім усміхнуўся задаволена.

На вуліцы ўжо цёмна. Цяжка знайсці, хто яго клікаў. Але яго самі знайшлі. Не паспеў да цемры прызвычаіцца, а яму адзін шустры такі “танцор” – лясь кулаком па барадзе.

– Ты што, здурэў, балван? – кінуўся Вадзім на шустрага. – Ты за што мяне стукнуў?

Іх расцягнулі. Вадзім крыху працверазіўся, але ўсё роўна нічога не разумеў.

– А ты за што аблаяў барышню і сябра майго?

– Я? Ды я іх у вочы не бачыў. На… яны мне?

– Гэта не той, – крыкнуў малады, які выбег на шум.

– Ах, не той? – шустры “танцор” развярнуўся і пайшоў сабе, як нічога не было.

– Ты ўжо прабач, Вадзім, – сказаў жаніх. – Ну, пераблыталі хлопцы.

Вось дык пераблыталі. Стукнулі па барадзе. Ну і што? Парадак.

## Разлёгся

– Харошая у мяне жонка, – думаў Васіль, – такая прыгожая.

Ён глядзеў, як уздымаецца ў такт яе дыханню коўдра і ўсё больш распаляўся. Спачатку пагладзіў яе, а потым пачаў цалаваць паціхеньку. Яму так хацелася заняцца каханнем. Даўно не было гэтага кахання, альбо, як цяпер кажуць, сексу, і неяк было нават страшнавата, быццам у першы раз. І хацеў, і баяўся, каб не падкачаць. Доўга гладзіў жонку, лашчыў яе, шукаў самыя трапяткія месцы. Замiраў то ад захаплення, то ад страху. Ён выконваў пажаданне жонкі – перад каханнем больш ласкі. Аня хацела спаць, доўга прачыналася, а пакуль зразумела, што яе лашчаць і чаго ад яе хочуць, дык была ўжо не такая жаданая, як спачатку. Але вось нарэшце прыйшло тое, дзеля чаго Васіль так стараўся. І ўжо цяпер не даў драмаць жонцы і сябе не стрымліваў, сваіх рук, свайго цела, сваіх пацалункаў. Захапленне, сумненне і радасць сёння былі разам.

Пасля кахання зноў пашанцавала: вада ў ванным пакоі была не толькі халодная, але і гарачая. Пасля такога прыемнага занятку – ды яшчэ не менш прыемная чысціня і свежасць цела. Потым і Аня пайшла мыцца, а Васіль лёг на канапе адпачыць. Лёг на бок, скруціўся абаранкам, падкурчыў ногі, каб жонка магла легчы каля сцяны. Так ёй прасцей залезці на дыван і зручней, не трэба пераступаць ды пералазіць цераз яго доўгія ногі. Жонка палезла на ложак.

“Ну, калі абдыме і прылашчыцца, як кошка, дык, значыць, добра сёння дагадзіў”, – падумаў Васіль.

І ў гэты ж момант атрымаў закаханы муж ад жонкі каленам у бок.

– Разлёгся тут… На ўвесь ложак.

Ён нават аслупянеў… Зусім не чакаў такога. Хуценька выроўніваючыся ў струнку, залепятаў:

– Я хуценька, я зараз… будзе ўсё добра.

Ён не баяўся жонкі. Было проста непрыемна і нават крыху крыўдна. Ён адсунуўся і рашыў зусім не датыкацца да жонкі. Як жа яна ўсё сапсавала! Замест задавальнення ў выніку атрымалася непрыемнасць. Успомніў, як хвіліны дзве тры назад разважаў – ці абдыме яго жонка і будзе лашчыцца, ці так ляжа. А тут – на табе, каленам пад бок. Яму стала смешна: “Ну, вось, раскатаў губы, ласкі захацеў”. Засмяяўся сам сабе. Жонка здзіўлена павярнула галаву.

– Ты чаго гэта? Чаго зубы скаліш?

– Ды так, успомніў адно смешнае здарэнне.

Жонка не распытвала яго, што ж гэта за здарэнне такое. Ёй было зусім нецікава. Ёй хацелася спаць. Без лішніх слоў павярнулася да сцяны і нацягнула коўдру да вушэй. Васіль пакуль спаць не хацеў. Ён ужо не думаў, дагадзіў ён жонцы ці не. Яму было добра, а гэта галоўнае. Так добра, што і не заўважыў, як заснуў з усмешкай на вуснах.

**На вушы**

Аня ўжо другую гадзіну круціцца каля люстэрка, падбірае сукенку на суботні вечар. Сяброўка запрасіла на дзень нараджэння ў рэстаран. Мужык глядзіць коса на ўсе гэтыя прымеркі. Ён адразу заявіў, што не пойдзе на гулянку, бо ў іх вячэрняя змена. А жонка не адмовілася, не падтрымала яго, а заявіла, што калі ён не можа адпрасіцца, дык яна адна пойдзе. Не можа ж яна

засмучаць сяброўку. Вось сёння яшчэ толькі серада і да суботы далёка, а яна ўжо каля люстэрка круціцца. Выцягнула ўборы з шафы, калготкі мяняе, на плечы накідае шалік серабрысты. Сукенку вячэрнюю пазычыла ў сяброўкі багатай і туфлі на высокім абцасе.

– Ну, сукенка быццам сядзіць добра, і чаравікі падыходзяць па памеры.

На кухні нешта зашыпела.

– Лепш бы за плітой глядзела, а то ўчора макароны падгарэлі!..

– Васечка, паглядзі там… на кухні, агонь паменшы. Ды чай свежы пастаў.

Васіль пабег на кухню. Вада ў каструлі пералівала цераз край, залівала пліту, пачуўся пах газу. Знянацку цапнуў гарачую накрыўку голай рукой і выпусціў. Абпалены палец сунуў пад халодную ваду. А жонка як круцілася, так і круціцца каля люстэрка.

– Быццам бы ўсё да твару… Не ведаю толькі, што на вушы пачапіць.

– Лапшу ўчарашнюю пачапі, добра будзе глядзецца, – буркнуў Васіль, пацiраючы пачырванелы палец.

ЗМЕСТ

Ветры зялёныя ........................................................4
Каляды ...................................................................4
Няшмат я вершаў напісаў ..........................................5
Каханне ..................................................................6
Пасля добрай п’янкі бацька ледзь ідзе. .........................6
Храм ......................................................................7
Каханне і вясна ........................................................7
Лета .......................................................................8
Бабіна лета .............................................................9
Восень ....................................................................9
Шырокіх праспектаў, Арбата .....................................10
Залацінка ..............................................................10
Рака жыцця ...........................................................11
Перад люстэркам .....................................................12
Жаночы дзень .........................................................13
Дзіцячыя пытанні ....................................................13
Пачатак вясны ........................................................14
Бярозавы вецер .......................................................14
Неба начное ўсыпана зоркамі .....................................15
Віно вінаграднае .....................................................16
Пяючы кранік .........................................................17
Ля акна .................................................................18
Пісьмо без канверта ................................................18
Воля .....................................................................19
Кастусь .................................................................19
“Хворы” ................................................................22
Заваявалі ...............................................................23
Разбудзіў ...............................................................26
Капялюш ...............................................................28
Чырвоныя шапкі .....................................................30
Мянушка дапамагла .................................................32
Куртка ..................................................................34

Прагаладаўся .......................................................................36
Франя......................................................................................38
Марожаныя яблыкі...............................................................40
Шчупачкі ў садзе....................................................................43
Дзе больш жулікаў? ...............................................................45
Карась .....................................................................................46
Снайпер ..................................................................................49
Святло дзяцінства..................................................................50
Бібліятэка ..............................................................................54
Касцяное яйка .......................................................................56
Рыба над вадой ......................................................................60
Шабля .....................................................................................63
Малады снег...........................................................................65
Жэ-мінь-жі-бао ......................................................................67
Крым .......................................................................................68
120% вітаміну ........................................................................70
Не зусім штрыфель ...............................................................71
Можа, кампоціку? .................................................................72
Не туды… тут акно ...............................................................73
Певень ....................................................................................75
Вадаспад.................................................................................77
Агні над ракой ......................................................................80
Глядзі на шалі........................................................................84
Цікавы мужчына....................................................................85
Трапны навагодні стрэл........................................................87
Зімовыя зайчыкі ....................................................................88
Хто большы?..........................................................................91
Свой дзед................................................................................93
Не той хлопец. Перапуталі. Ну і што? ................................94
Разлёгся .................................................................................95
На вушы .................................................................................96